14 красавіка 2017 | № 14 (528)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Германія: «Вялікая кааліцыя» назаўжды?
стар. 9

4 ЧАМУ ВЫМЕРЛІ ДЫНАЗАЎРЫ?

Узровень адэкватнасці «дзяржавы для народа» заўсёды спараджаў мноства пытанняў

6–7 ПРЫГОЖЫ БІЗНЭС

Як адбіўся эканамічны крызіс на сферы прыгажосці? Ці ахвотна цяпер кліенты нясуць свае грошы на стрыжкі ды манікюры? Якія маркетынгавыя фішкі дапамагаюць?



10 ПАРТЫЗАН І АРГАНІЗАТАР «ВЯЛІКАГА ТЭРОРУ»

Супрацоўнікі НКУС спрычыніліся да масавых сталінскіх рэпрэсій у Беларусі. Адначасна — тое ж ведамства арганізоўвала антынямецкі супраціў у «тыле ворага» падчас Другой сусветнай вайны




11 «РАБУЮЦЬ І ЦЯГНУЦЬ АДТУЛЬ УСЁ, ШТО МОГУЦЬ»

Людзі баяліся вайны і не верылі ў трываласць Пакту аб ненападзе, заключанага паміж СССР і Германіяй у жніўні 1939 года. Аднак 17 верасня 1939 года Масква дала адказ на шматлікія пытанні, якія з'яўляліся ў галовах савецкіх грамадзян

# Новы паварот у «справе патрыётаў»

## Улады шукаюць шчыліны, каб пазбавіцца ад справы?



Сяргей ПУЛЬША

У справе затрыманых былых чальцоў «Белага легіёну» і маладафронтаўцаў — новы паварот. Раней, як вядома, яны падазраваліся ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. Зараз ім прад'яўляецца новы артыкул Крымінальнага кодэкса — «стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання».

Даведаліся мы пра гэта дзякуючы афіцыйнай прэсе: артыкул быў апублікаваны ў «СБ. Беларусь сегодня». Орган Адміністрацыі прэзідэнта адзначае, што абвінавачванне па такім артыкуле высоўваецца ў Беларусі ўпершыню. Газета таксама паведамляе, што па справе аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў праходзяць 35 чалавек. 17-ці з іх выставілі абвінавачанне, яны арыштаваныя. Яшчэ 18 чалавек знаходзяцца ў статусе падазраваных. «Стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання» інкрымінуецца 20 асобам з ліку гэтых 35-ці.

«СБ. Беларусь сегодня» фактычна выдала матэрыялы следства, прыводзячы фрагменты з паказанняў асобных затрыманых. А гэта ўжо артыкул 407 таго ж Крымінальнага кодэкса — «Разгалошванне дадзеных дазнання, папярэдняга следства альбо закрытага судовага пасяджэння». Праўда, артыкул тычыцца толькі тых, хто даваў падпіску пра неразгалошванне, чаго журналісты «СБ», зразумела, не рабілі. Але ў артыкуле 407 КК ёсць і другая частка — «такія ж дзеянні, здзейсненыя асобай, якая мае доступ да матэрыялаў крымінальнай справы па службе».

«СБ. Беларусь сегодня» паведамляе, што новы артыкул — «вельмі і вельмі строгі». Але ці насамрэч гэта так?

«Падрыхтоўка масавых беспарадкаў» (арт. 293 ч. 3 КК), якую інкрымінавалі затрыманым раней, прадугледжвае арышт на тэрмін да шасці месяцаў альбо пазбаўленне волі да трох гадоў. Артыкул 287 КК — «стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання», — сапраўды, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да сямі гадоў. Але ў ім ёсць і «абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў». «Абмежаванне волі» бывае двух тыпаў: з накіраваннем у папраўчую ўстанову (так званая «хімія») і без накіравання ў такую ўстанову. Без накіравання — чалавек знаходзіцца на волі, але мае пэўныя абмежаванні, якія выяўляюцца ў пастаянным яго кантролі з боку праваахоўных органаў.

То бок, адказнасць за «стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання» можа быць нават мякчэйшая, чым за «масавыя беспарадкі», за якія абмежавання волі няма — толькі канкрэтнае зняволенне.

Улічваючы, што следства, наколькі вядома грамадству, не мае асноўнага доказу па 287-м артыкуле, а менавіта — баявой зброі, то ўжо можна меркаваць, якое пакаранне абярэ суд. Калі ён, зразумела, адбудзецца. Зараз з'явіліся падставы ў гэтым сумнявацца.

Сумневы — таму што 287-ы артыкул КК мае своеасаблівую «вішаньку на торце» ў выглядзе заўвагі да артыкулу. Яна гучыць так: «Асоба, якая добраахвотна спыніла ўдзел у незаконным узброеным фармаванні і якая здала зброю, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці па гэтым артыкуле».



> «Стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання» інкрымінуецца 20 асобам

А зараз варта паглядзець, што нам вядома па справе.

Баявой зброі як такой у затрыманых не выяўлена. Тое, што нам паказвалі ў «страшылках» па беларускім тэлебачанні, на справе апынулася альбо сувенірамі, альбо навучальнымі муляжамі, альбо страйкбольнымі прыладамі. У некага знайшлі афіцыйна зарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы. «Незаконнае фармаванне», узброенае муляжамі, — па такім абвінавачванні можна арыштаваць і дзіцячы садок, дзе знойдзецца безліч цацачных аўтаматаў і пісталетаў. Адпаведна, «здаваць зброю» складана: альбо няма чаго, альбо давядзецца адмовіцца ад паляўнічай ліцэнзіі.

Агульнавядома, што «Белы легіён» заявіў пра самароспуск напачатку 2000-х. То бок, затрыманыя зараз чальцы той арганізацыі ўжо даўно «добраахвотна спынілі ўдзел у незаконным узброеным фармаванні».

Тут ёсць два сцэнары: добры і дрэнны. Дрэнны: калі некаму давесці артыкул пра незаконнае ўзброенае фармаванне ў дадатак да падрыхтоўкі масавых беспарадкаў. У гэтым выпадку следству давядзецца папацець, каб даказаць і тое, і іншае. З доказнай базай, як казалася вышэй, — вялікія праблемы. Аднак «даваска» артыкулу будзе азначаць як мінімум тое, што фігуранты справы патрыётаў за кратамі надоўга.

Добры сцэнар — калі абвінавачванне будзе перакваліфікаванае, і артыкул пра масавыя беспарадкі знікне. Тады следства можа прапанаваць фігурантам «справы патрыётаў» прызнацца: так, фармаванне было, але мы ўжо даўно спынілі ў ім удзел. І на гэтай падставе іх вызваляць ад адказнасці, і, адпаведна, з-за кратаў.

Адзіная перашкода ў тым, што фігуранты «справы патрыётаў» — людзі прынцыповыя. І на такую дамову са следчымі, як прызнанне існавання нават даўно «ўзброенага фармавання» яны могуць і не пайсці.

# «Чарнобыльскі шлях» у новым фармаце

Сяргей ПУЛЬША

**«Чарнобыльскі шлях–2017» у чарговы раз будзе «тэстам для ўлады» пасля падзей 25 сакавіка.**

Прынамсі, так яго назваў на прэс-канферэнцыі сустаршыня БХД Павел Севярынец. Акрамя таго, аргкамітэт па правядзенні акцыі вырашыў зрабіць яе сапраўды народнай падзеяй.

Заяўка ў Мінгарвыканкам на акцыю была пададзена ў новым фармаце. Сёлета збор удзельнікаў плануецца ўвечары 26 красавіка ля Опернага тэатру, адкуль шэсце пойдзе да Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай. Зважаючы на папярэднія дзеянні гарадской улады, якія выявіліся ў нясвоечасовым адказе наконт Дня Волі, зараз ініцыятары мерапрыемства спрабуюць далучыць да разгляду заяўкі ўсіх неабыякавых грамадзян.

Як паведаміў Павал Севярынец, на петыцыйных інтэрнэт-пляцоўках change.org, talaka.by і petition.by размешчаны звароты да ўладаў сталіцы з патрабаваннем дазволіць акцыю згодна з планамі аргкамітэту. Адпаведны збор подпісаў будзе адбывацца і жыўцом. Гэтыя подпісы таксама скіруюцца ў Мінгарвыканкам.

Апроч таго, як заўважыў намеснік старшыні партыі «Зялёныя» Дзмітрый Кучук, у заяўнікаў ёсць плюс у выглядзе сёлетняга раскладу святаў і выходных. 22, 23, 24 і 25 красавіка ў гэтым годзе — выходныя. Заяўнікі спадзяюцца атрымаць адказ своечасова — 21 красавіка, у апошні дзень перад выходнымі.

Арганізатары просяць грамадзян далучыцца і да належнага правядзення мерапрыемства. Для акцыі патрэбная гукаўзмацняльная апаратура, балонікі, розныя плакаты і расцяжкі. На гэта прапануецца «скінуцца ўсім светам». Аргкамітэт завёў адпаведны рахунак у Беларусбанку, і просіць людзей пералічыць на яго грошы хто колькі можа (картка Беларусьбанка 5470 9100 2070 4193, тэрмін дзеяння 02/20).

Традыцыйна ў гэты час ладзіцца «Чарнобыльскі тыдзень» з самымі рознымі мерапрыемствамі. Пераважная большасць з іх будзе праходзіць на офісе Беларускай партыі «Зялёныя».

Сёлетні «Чарнобыльскі шлях» аб'яднаў усе дэмакратычныя сілы. Прынамсі, на прэс-канферэнцыі за адным сталом сядзелі прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага кангрэсу (Рух салідарнасці «Разам») і «Правацэнтрысцкай кааліцыі» (БХД, АГП і Рух «За Свабоду»), Партыі БНФ і «Гавары праўду», якія ні ў якія кааліцыі не ўваходзяць. Пераважна «правыя» з'ядналіся з «левымі» ў асобе БПЗ. Карацей, зараз «Чарнобыльскі шлях» — сапраўды аб'ядначая і агульная справа.

# «Крыжы ў Курапатах чапаць не будуць»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Антон Астаповіч распавёў пра вынікі размовы з міністрам культуры Барысам Святловым наконт конкурсу па мемарыялізацыі Курапатаў.**

Сустрэча старшыні Таварыства аховы помнікаў з міністрам культуры адбылася, як вынік ліста, які Астаповіч накіраваў у Савет міністраў, Міністэрства культуры ды кіраўніку дзяржавы. У лісце былі пастаўлены пад сумнеў умовы конкурсу па мемарыялізацыі месца сталінскіх рэпрэсій, які збіраюцца ладзіць улады.

Паводле Астаповіча, яго не задавальняў не прапісаны ва ўмовах склад журы конкурсу ды фармат удзелу грамадскасці ў ініцыятыве. Былі таксама пытанні і па фармаце праектаў, якія можна было падаваць на конкурс: паводле ўмоў дапускаліся планы з выкарыстаннем тапаздымкаў 1:500, якія фактычна з'яўляюцца дакументамі «для службовага карыстання».

«Спадар Святлоў распавёў, што прымацца будуць усё ж такі ўсе працы, — тлумачыць Астаповіч. — Гэта не столькі конкурс, колькі прагляд напрацаваных праектаў для мемарыялу: як зробленых працяглы час таму, якія ляжаць у архівах, так і свежых. Пазней варыянты будуць даведзеныя да грамадскасці».

Астаповіч таксама адзначыў, што народны мемарыял, створаны за апошнія амаль 30 гадоў, кранаць не будуць. Гаворка ідзе пра стварэнне мемарыяльнага знаку ды сістэмы добраўпарадкавання тэрыторыі. Галоўнае на дадзены момант, на думку старшыні Таварыства аховы помнікаў, — гэта не дапусціць брутальнай інтэрвенцыі ва ўрочышчы.

Нагадаем, што сярод грамадскасці ды ў інтэрнэце выклікала шквал абурэння інфармацыя пра конкурс на мемарыял у Курапатах, які, нібыта, мае адбыцца ў максімальна сціслыя тэрміны з незразумелым складам удзельнікаў ды журы. Такая ініцыятыва з'явілася пасля заявы кіраўніка дзяржавы пра неабходнасць ушанавання памяці ахвяраў, пахаваных ва ўрочышчы.

# Што стаіць за «справай патрыётаў»?

**На сённяшні момант праваабаронцам вядома пра 21 затрыманага фігуранта справы «аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў», распачатай па частцы 3 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса. З іх 18-ці прад'яўлена абвінавачванне.**

Па гэтым артыкуле фігурантам справы пагражае арышт на тэрмін да шасці месяцаў або пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў.

«У мяне склалася ўражанне, што ўся гэтая справа — частка нейкай больш вялікай правакацыі, якая, дзякуй Богу, не здарылася», — распавёў Мікалай Статкевіч.

— Маё меркаванне, што па гэтай справе ва ўлады нічога няма, — дадае Мікалай Статкевіч. — Яе можа толькі фальсіфікаваць. Напрыклад, па БТ паказалі Сяргея Кунцэвіча, якому прад'ўлена абвінавачванне па справе, і паказалі машыну, з якой дасталі нейкія бутэлькі з вадкасцю. Але ёсць відэа, якое зняў не вядомы мне чалавек. На ім — тыя самыя «кактэйлі» дастаюць спачатку з міліцэйскага аўтобуса. Таму мы ўсе гэтыя факты перадалі дэлегацыі Еўрасаюза, Еўрапарламента, а таксама ўсім сацыял-дэмакратычным партыям Еўропы і ў сусветнае аб'яднанне — Сацыялістычны інтэрнацыянал. Міжнародная грамадскасць павінна ведаць, да якіх метадаў апускаюцца беларускія ўлады. Увогуле, у мяне склалася ўражанне, што ўся гэтая «справа патрыётаў» — частка нейкай больш вялікай правакацыі, якая, дзякуй Богу, не здарылася.

***— Якія, на ваш погляд, перспектывы гэтай справы?***

— Я думаю, што, калі людзі крышку забудуцца пра гэтыя фільмы і гэтыя істэрыі, калі ўлада таксама вырашыць супакоіцца, то і фігурантаў справы будуць паціху вызваляць.

***— Як на Захадзе ставяцца да ўсяго гэтага? Ці ёсць з гэтай нагоды нейкая вызначаная пазіцыя альбо пакуль там вырашылі не псаваць адносіны з афіцыйным Мінскам?***

— Заходнія чыноўнікі вельмі шкадуюць сваіх намаганняў па наладжванні дыялогу з Мінскам, а таму тыя, хто будаваў гэтыя масты, павінен зараз скрыгатаць зубамі, хаця многія дэманструюць шчырае абурэнне. Калі ж 1 мая, у дзень, калі мы плануем чарговую акцыю, улады дазволяць сабе нешта накшталт таго, што было 25 сакавіка, то можа змяніцца ў момант і заходняя палітыка да Беларусі. Але ў такім выпадку хаця б нашым унукам і дзецям не давядзецца вяртаць заходнія крэдыты. Бо беларускія ўлады іх проста не атрымаюць.

«У 2010 годзе ў турме КДБ мне паказвалі фотаздымкі зброі, якую нібыта знайшлі ў офісе ў маім стале, — напісаў на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў. — Некалькі гранат, два пісталеты... Я папрасіў следчага прынесці адзін пісталет на допыт. Ён не прынёс... Я гэта да чаго? Да таго, што КДБ усё ж лепіць «справу баевікоў», чальцоў няіснага «Белага легіёну», у якіх таксама нібыта знайшлі нейкую зброю. І я баюся, што пасля размовы з Пуціным, у якой Лукашэнка заявіў, што «жыць нам спакойна ніхто не дасць», справу далепяць. Што ні ў чым не вінаватых людзей пасадзяць, хоць доказы ў гэтай «справе» такія ж, як некалі ў майго следчага».

**Паводле palitviazni.info**

# Рабацяга, які пабыў у скуры апазіцыянера

Арцём ЛЯВА

**Будаўнік Андрэй Мішакоўскі ні да якой грамадскай альбо палітычнай арганізацыі дачынення не мае.**

Аднак пайшоў на Дзень Волі, бо абурыўся дзеяннямі міліцыі ў дачыненні да анархістаў 15 сакавіка. Кажа, што хацеў пабачыць стаўленне міліцыі да людзей на свае вочы. У выніку быў затрыманы, збіты амапаўцамі і пакараны пяцісуткавым арыштам.

Малады спартовага выгляду хлопец, які працуе ў будаўнічай кампаніі, займаецца прамысловым альпінізмам, у інтэрнэце ўбачыў відэа, як супрацоўнікі міліцыі ў цывільным выцягвалі з тралейбуса і жорстка затрымлівалі людзей 15 сакавіка. Ён быў узрушаны, што да людзей ставяцца як да быдла, і, калі пабачыў рэкламку пра 25 сакавіка, вырашыў прыйсці і паглядзець на ўсё ўласнымі вачыма.

«Жыву я ў Малінаўцы. 25-га сеў у метро і паехаў на Акадэмію навук. Але цягнік спыніўся толькі на станцыі Маскоўская. Пайшоў пешшу ў цэнтр. Пакуль ішоў, мяне... аштрафавалі. Празезная частка праспекту была перакрытая, транспарту не было. Я пайшоў на сярэдзіну, каб сфатаграфаваць гэта. Праз некаторы час да мяне пад'ехаў ДАІ і на мяне афармілі пратакол за «пераход праезнай часткі ў недазволеным месцы». Далі штраф 70 рублёў», — распавядае Андрэй.

«Падыходжу да ачаплення каля плошчы Калініна, кажу: «На якой падставе вы мне перагарадзілі дарогу. Выходны дзень, я магу гуляць дзе хачу». Адзін пачаў хапаць за руку, другі — рабіць падсечку. Нейкім цудам ад іх вырваўся. Людзі вакол нават заапладзіравалі.

Але з натоўпу выскачыў чалавек, ударыў мяне ў твар (аказалася, міліцыянт, потым я яго бачыў у РУУС), звaліў з ног. Падскочылі іншыя міліцыянты, пачалі мяне лупцаваць druchkamі, потым зацягнулі ў зялёны МАЗ, які курсуюць па гарадскіх маршрутах. Пачалі там біць па рэбрах, скакаць па галаве. Я нават страціў прытомнасць. Пакуль мяне везлі ў Заводскі РУУС, я ляжаў на падлозе. Мне кінулі нейкую анучу, каб я крывёй не моцна запэцкаў аўтобус», — працягвае расповед Андрэй.

У РУУС у хлопца кружылася галава, ванітавала, ён слаба разумеў, што адбываецца. Прасіў доктара — адказалі: «Сядзі! Хочаш саскочыць?». Трымалі гадзіны чатыры на вуліцы, паставілі тварам да сцяны — дождж, снег... Адтуль павезлі ў ізалятар на Акрэсціна. Там чакалі суда да панядзелка. У панядзелак павезлі ў суд Заводскага раёна.

«Суддзя прасіла распавесці, як было. Я спытаў, ці гэта паўплывае на рашэнне. Яна прызналася, што не. І я адмовіўся нешта тлумачыць, няхай, кажу, будзе, як будзе. Мяне пакралі 5 суткамі», — узгадвае Андрэй.

Двое сутак проста адлежваўся пасля збіцця. Потым пачаў прыходзіць у сябе. Хлопца пераводзілі з камеры ў камеру. Сядзеў і з прапанеднікамі-ўкраінцамі, і з Алесем Лагвінцом, але найбольш уразілі вошы.

«Нехта з ахоўнікаў ставіўся нармальна, па-чалавечы, нехта ставіўся як да сабак. Я, напрыклад, палю, дык атрымалася папаліць толькі ў апошні дзень, калі нас вывелі ўрэшце на прагулку. Я чытаю правілы распарадку, якія ў іх вісяць, на што маюць правы арыштаваныя, кажу ім дзе то, дзе гэта. Ну мяне і пераводзілі з камеры ў камеру разы тры», — прыгадвае акалічнасці Андрэй Мішакоўскі.

«Што ўразіла? Вошы! Калі нас перавялі ў камеру з 2-га на 3-ці паверх. Гляджу, дзядуля сядзіць, неяк падазрона калупаецца. Запытваю, ці ўсё добра? Кажа — усё нармальна. Пачалі глядзець яго адзенне — там у швах вошы поўзаюць. Пачалі патрабаваць памяняць матрацы, тэрмаапрацоўку... У апошні дзень нас адвялі ў душ і апрацавалі адзенне. Я ім казаў са смехам: «Я ж прыйшоў да вас без насякомых, адпусціце мяне такім жа».

«Мяне, канешне, здзівіла такое стаўленне міліцыянтаў да простых людзей. У мяне бацькі ваеннаслужачыя. Сястра таксама. Такога бязмежжа не чакаў. Калі мяне білі, прыгаворвалі: «Ну што, зарабіў грошай, прадажная шкура!» Я кажу: «Пра што вы кажыце, я за сваё выйшаў!» Калі б прапанавалі грошы, я б не ўзяў. Мяне дастала, што ў краіне творыцца. Я прыехаў адзін і ішоў адзін з думкай, што калі выйдуць такія, як я, нешта зменіцца. Абурэнне на канапе нічога не вырашыць», — падсумоўвае Андрэй Мішакоўскі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Неадчувальная рэальнасць уладаў

Сяргей САЛАЎЁЎ


Фота www.playbuzz.com

**У савецкі час расказчыкі анекдотаў вынайшлі філасофскае азначэнне паняцця «дэфіцыт» — гэта «рэальнасць, не дадзеная нам у адчуваннях». Падаецца, зараз у «неадчувальнай рэальнасці» існуе кіраўніцтва Беларусі.**

Як заўсёды па вясне, Аляксандр Лукашэнка сочыць за ходам пасяўной, па шляху зазіраючы на розныя прадпрыемствы. На гэтым тыдні пад яго ўвагу трапіла Гомельшчына. І, як звычайна, жыхары гэтага рэгіёну ў чарговы раз праслухалі заклінанні «ўсім па пяцьсот».

Заробак у тысячу рублёў — гэта той мінімум, які дзяржава павінна дапамагчы людзям зарабіць, заявіў кіраўнік дзяржавы, наведваючы «Рэчыцадрэў». «Тысяча рублёў — гэта той мінімум, які мы павінны дапамагчы людзям зарабіць. А далей варушыцеся самі. Вядома, мы будзем падштурхоўваць — і кіраўнікі, і ўрад. Але гэты бар'ер, які ў нас калісьці быў, трэба аднавіць», — сказаў Лукашэнка.

Асобна ён закрануў пытанні працаўладкавання. У прыватнасці, у Рэчыцы налічваецца некалькі сотняў беспрацоўных — менш за 1% ад працаздольных грамадзян. «Але і ім трэба прапанаваць працу па кваліфікацыі. Шмат хто хоча працаваць, вялікія грошы мець, а ў школе нават двойкі не атрымлівалі. Жыццё змянілася. Вы можаце крытыкаваць мяне як заўгодна. Не можам мы сабе дазволіць, калі ў краіне 350 тысяч, як яны называюць сябе — «дармаедаў», нічога не робяць. Гэта хіба нармальна?» — задаў ён рытарычнае пытанне. Паводле слоў Лукашэнкі, сярод гэтых людзей — вялікая колькасць патэнцыйных правапарушальнікаў, якія гатовыя пайсці на злачынства, каб здабыць сродкі на пражыванне.

Словы, канешне, правільныя, але не больш, чым словы. Па-першае, калі ў краіне 350 тысяч «дармаедаў», гатовых пайсці на правапарушэнне, каб здабыць сродкі на пражыванне, — гэта якраз і сведчыць пра хібнасць эканамічнай палітыкі дзяржавы. Гэта азначае, што яны не забяспечаныя працай, за якую яны б атрымлівалі годны заробак. Каб ім не даводзілася ісці на правапарушэнні дзеля сродкаў на жыццё.

Па-другое, размовы пра «тысячу рублёў заробку» зараз толькі злуюць грамадства. Асабліва, калі нават дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелТА прызнаецца — 70% вакансій у Беларусі прапануюць заробак да 465 рублёў. І павялічыць заробак больш чым удвая за дзевяць месяцаў, якія засталіся да канца 2017 года, — пупок развяжацца ва ўсяго ўрада.

Па-трэцяе, на «дармаедах» ужо апякліся. «Дармаедамі» гэтыя 350 тысяч, калі яны ёсць, сталі не ад добрага жыцця, і не ад таго, што яны не хочуць працаваць. Тым больш, што значная частка гэтых людзей выконвае функцыі, якія здымаюць вялікі цяжар з дзяржавы.

Банальны прыклад: «дармаед» апякуецца састарэлымі бацькамі або інвалідамі (або і тое, і другое разам узятае). У гэтым выпадку тры чалавекі ад дзяржавы нічога не патрабуюць (сам «дармаед» і ягоныя бацькі). А зараз уявім сабе, што ён аддасць бацькоў у дзяржаўную спецустанову і пойдзе працаваць. У выніку дзяржава «раскашэльваецца» на ўтрыманне двух чалавек, атрымліваючы падаткі з аднаго. Хто ад гэтага выйграе?

Дарэчы, праўкі ў «дармаедскі дэкрэт» ужо ляжаць дзесьці ў кіраўніка дзяржавы — іх распрацавалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. І нашы народныя абраннікі знайшлі сякеру пад лавай. Яны пашырылі спісы недармаедаў, але як? Пад гэтую катэгорыю не павінны падпадаць грамадзяне, якія прызываюцца на тэрміновую вайсковую або альтэрнатыўную службу. Жанчыны па прычыне цяжарнасці і родаў. Студэнты за паўгода да моманту пачатку вучобы і на паўгода пасля яе завяршэння. А яшчэ была распрацавана прапанова вызваліць ад выплаты збору людзей, якія стаяць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры.

Падаецца, усё гэта было яшчэ ў першай рэдакцыі паправак да дэкрэту. Нароўні са спратоўцамі, чальцамі творчых саюзаў і рамеснікамі.

А вось каго ў гэтую катэгорыю не ўключылі — дык гэта зняволеных. Калі «на зоне» працы няма, атрымліваецца, што «зэкі» — таксама лайдакі, праўда ж?

І яшчэ дэпутаты прапанавалі магчымасць адтэрміноўкі і растэрміноўкі плацяжоў. Ну, тут увогуле вялікі палёт для фантазіі. Можна яшчэ прапанаваць ільготныя крэдыты для аплаты падатку на дармаедства. Гэта весялей будзе.

Прапанаваныя змены паказваюць толькі адно — наколькі далёкія «народныя абраннікі» ад народа. І не з дэпутатамі па гэтым пытанні трэба размаўляць. Уладам варта было б прыслухацца, напрыклад, да Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча. Пра дэманстрацыі і наступствы публічных пратэстаў супраць дэкрэту пра так званых «дармаедаў» каталіцкі іерарх даведаўся падчас вяртання з ЗША, праглядаючы навіны ў інтэрнэце. «Мне стала горка за краіну, і я вырашыў звярнуцца са сваім заклікам да ўсіх бакоў, — згадаў Мітрапаліт. — З усіх бакоў павінны быць цывілізаваныя метады вырашэння праблем. Трэба сядаць за стол перамоў. Я і сёння да гэтага заклікаю. Бо толькі за сталом перамоваў усіх зацікаўленых бакоў ёсць шанс вырашыць гэтую праблему. Дзякую Богу, што ўлады таксама заўважаюць гэта. Заўважаюць, што дэкрэт №3 аб «дармаедах» патрабуе правак».

Калі ўжо пра дэкрэт №3 пачала казаць царква — гэта і ёсць паказчык маштабу праблемы. І варта зазначыць, што Кандрусевіч заклікае сустрэцца на перамовах «зацікаўленым бакам». А не тое, што ўлада будзе раіцца з ёй жа прызначанымі дэпутатамі.

Але ўсё ж падчас наведвання Лукашэнкам Гомельшчыны мы пачулі і нешта цікавае. «Вы можаце крытыкаваць мяне як заўгодна. Будуць у вас іншыя прэзідэнты, і, калі яны захочуць утрымаць краіну, будуць праводзіць такую ж палітыку... Крытыкаваць — крытыкуйце, толькі падумайце, да чаго мы ідзем», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Ці ён проста стаміўся быць кіраўніком дзяржавы? Ці сапраўды задумваецца пра тое, куды мы за час ягонага кіраўніцтва прыйшлі? Ці зразумеў, што ўжо не кантралюе сітуацыю, і заявамі яе не ўратуеш?

Добра тое, што Аляксандр Рыгоравіч задумаўся пра будучыню. Можа, гэта падштурхне яго нешта змяніць тут і цяпер.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ніна Багінская

**Пенсіянерка штодня выходзіць на адзіночныя пікеты ля будынка КДБ у Мінску.**

Такім чынам Ніна Багінская прыцягвае ўвагу і падтрымлівае затрыманых па «справе патрыётаў» дэмакратычных актывістаў. Частка з іх знаходзіцца якраз ва ўнутранай турме КДБ.

Актывістка з самаробным плакатам «Свабоду народу» прыходзіць да будынка КДБ каля 19:00, стаіць каля гадзіны, пасля чаго накіроўваецца да Чырвонага касцёла, дзе ўжо сёмы год штодня праходзяць малітвы за Беларусь. Да яе часта падыходзяць мінакі, якія выказваюць ёй словы падзякі і падтрымкі.

Паводле Ніны Багінскай, у першы дзень за ёй сачылі людзі ў цывільным. Другім разам са знакамітага ўжо сіняга мікрааўтобуса за падзеямі назіралі амапаўцы. Праўда, 5 красавіка яны з'ехалі каля 19:30, пасля чаго да актывісткі амаль адразу падышла жанчына, якая пыталася, якой свабоды не хапае менавіта пенсіянерцы Ніне Багінскай. Неўзабаве яна сышла таксама.



## Вячаслаў Касінераў

**Справа Вячаслава ўжо паступіла ў суд. Працэс пачнецца 27 красавіка.**

Але гэта справа непазбежна ўвойдзе ў падручнікі юрыспрудэнцыі. Бо фактычна, Касінерава вінавацяць у тым, што ён збіў... помнік!

Паводле абвінавачання, Касінераў учыніў хуліганскія дзеянні: «накінуў на шыю скульптуры «Мінскага гарадавога» пятлю (якая імітуе пятлю для павешання), выкананую з канату светлага колеру, які выдзяляецца на фоне скульптуры і прыкметны для навакольных, пасля чаго зацягнуў пятлю каля шыі скульптуры і, у працяг сваіх дзеянняў, нанёс два ўдары рукой па галаве скульптуры «Мінскага гарадавога», якая ўвасабляе парадак і спакой на вуліцах гораду».

Нагадаем, Касінераў абвінавачваецца не ў пашкоджанні помнікаў, не ў вандалізме, а ў хуліганстве. Гэты артыкул прадугледжвае адказнасць за дзеянні, якія суправаджаюцца гвалтам альбо пагрозай гвалту. Такім чынам, Касінераў збіў помнік.

Заўважым, што пакрыўджаная скульптура не мае статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці ці ахоўваемага дзяржавай помніка.

Праваабаронцы ўжо заявілі, што дзеянні Касінерава з'яўляюцца выказваннем меркавання шляхам мастацкай формы выяўлення, і тут няма наўмысна здзейсненага хуліганства. А таму ўжо лічаць яго палітычным зняволеным і патрабуюць яго неадкладнага вызвалення.

## Мікалай Статкевіч

**Экс-кандыдат у прэзідэнты і былы палітвязень на гэтым тыдні стаў адным з галоўных апазіцыйных ньюсмейкераў.**



Па-першае, Статкевіч выступіў у сюжэце расійскага Першага канала ў праграме «Воскресное время», у якім у чарговы раз расказваецца пра «русафобію», што сфармавалася ў беларускім грамадстве з дазволу Аляксандра Лукашэнкі насуперак расійскай эканамічнай дапамозе.

Статкевіч патлумачыў, чаму пагадзіўся на інтэрв'ю «прарасійскай прапагандзе». «У сюжэце адкрыта гаворыцца, што Беларусь трэба паважаць, мову нашу трэба паважаць. І я ўспрымаю гэта так: Расія рыхтуецца да Беларусі без Лукашэнкі. Расія рыхтуецца да сітуацыі, калі яго ўжо не будзе. Бо Расія не хоча страціць беларускі народ так, як украінскі. І гэты сюжэт — спроба пераканаць беларускае грамадства, самую актыўную яго частку, патрыятычную, што Расія не вораг, што Расія паважае дзяржаўнасць і культуру», — лічыць Статкевіч.

Па-другое, Статкевіч звярнуўся да канцлера ФРГ Ангелы Меркель з просьбай знайсці «грамадзянку Германіі», якая нібыта напісала ліст у беларускае пасольства пра магчымыя правакацыі ў Дзень Волі. Ліст быў надрукаваны ў «СБ. Беларусь сегодня», і з яго пачалася «справа патрыётаў». Статкевіч просіць Меркель даручыць праваахоўнікам ФРГ знайсці «фрау А.» і дапытаць яе з дапамогай дэтэктара хлусні.

Ці адрэагуе на гэты ліст «фрау М.» — пытанне. Але спроба выдатная.

а | Азбука паліталогіі


Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму вымерлі дыназаўры?

**Толькі для назіральніка збоку неабмежаваная ўлада ў аўтарытарна-таталітарных сістэмах выглядае сапраўды такой.**




Узровень адэкватнасці «дзяржавы для народа» заўсёды спараджаў мноства пытанняў. Дастаткова прыгадаць, чым скончыліся ініцыятывы па мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай галіны. А ці шмат знойдзецца эрудытаў, якія б здолелі на цвярозую галаву даходліва растлумачыць асновы дзяржаўнай ідэалогіі? І гэта нягледзячы на наяўнасць ідэалагічнай «вертыкалі» і абавязковага курсу ідэалогіі ў беларускіх ВНУ.

Асобная тэма — рэакцыя на публічныя акцыі пратэсту. Здавалася б, свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак, гарантаваныя ў нас Канстытуцыяй (артыкул 35), зрэшты, як і права на забастоўкі (артыкул 41). Аднак на практыцы няшмат хто здолеў рэалізаваць канстытуцыйныя правы без наступстваў у выглядзе штрафаў і «сутак».

Для аматараў статыстыкі нагадаю, што словы «гарант» і «гарантуецца» згадваюцца ў Асноўным законе 24 разы. Чаму ж тады гарант — у асобе дзяржавы і адзінага палітыка (АП) — так неадэкватна рэагуе на любыя спробы беларусаў рэалізаваць на практыцы свае палітычныя правы?

## Маленькая галава і доўгая шыя

Сам факт наяўнасці адзінага палітыка ў краіне з насельніцтвам 9,5 мільёна чалавек азначае адсутнасць палітыкі. Беларуская дзяржава пабудаваная па прынцыпу піраміды, прычым піраміды, якая стаіць на сваёй вяршыні. Такая канструкцыя даказала сваю эфектыўнасць ва ўмовах традыцыйнага сельскага грамадства, калі для падтрымання стабільнасці была патрэбная мінімальная колькасць кіраўніцкіх рашэнняў.

Так званая «беларуская мадэль» з'яўляецца амаль дакладнай копіяй савецкай мадэлі, крах якой не ў апошнюю чаргу быў звязаны з кіраўніцкім ступарам пры спробе перайсці ад індустрыяльнай да постындустрыяльнай эканомікі. «Гэта сітуацыя дыназаўра, — тлумачыць палітолаг Мікалай Пятроў, — асуджанага да вымірання не таму, што ёсць нейкія спрытныя драпежнікі, якія перагрызаюць яму горла (у нас няма арганізаванай палітычнай апазіцыі, і наўрад ці яна бліжэйшым часам з'явіцца), а таму, што ў яго галава занадта маленькая, цела занадта вялікае, а шыя занадта доўгая. І пакуль сігнал ідзе наверх і вяртаецца назад, праходзіць занадта шмат часу».

Але нізкай хуткасцю праходжання сігналаў праблема не абмяжоўваецца. Такога кшталту сістэмы жорстка завязаныя на першую асобу дзяржавы, якая з'яўляецца галоўным цэнтрам прыняцця рашэнняў. Гэта значыць, што кіраўнік дзяржавы (АП у нашым выпадку) перагружаны, і фізічна не ў стане аператыўна дзейнічаць па ўсіх напрамках. Акрамя таго, з-за адсутнасці права на прыняцце самастойных рашэнняў у чыноўнікаў на прамежкавых узроўнях уладнай «вертыкалі», любы штуршок звонку адразу жорстка перадаецца на самы верх.

**«Свята непаслушэнства» прымусіла Крэмль шукаць дадатковыя сродкі для прымусу да выканання саюзніцкіх абавязацельстваў, і ў якасці такога сродку, магчыма, быў абраны кіраваны хаос**

У гэтай сувязі рэкамендую чытачам НЧ знайсці ў інтэрнэце артыкул Паўла Усава «За ўсё, што адбываецца ў краіне, адказвае асабіста Лукашэнка». Беларускі палітолаг рашуча адхіляе сам факт магчымасці спецслужбаў дэзынфармаваць АП. Па-першае, таму што адсутнічае манаполія ў пытаннях інфармавання, бо спіс «дапушчаных да цела» досыць шырокі. Па-другое, у сувязі з адсутнасцю ў сілавога блока каардынацыйнага цэнтра, што выключае магчымасць «правільна» дэзынфармаваць АП.

Пакінем за дужкамі праблему асабістай адказнасці АП (прыклады такой адказнасці аўтару невядомыя) і паспрабуем разабрацца з дапамогай азбукавых паліталагічных ісцін у справядлівасці сцвярджэнняў Паўла Усава.

## Улада прамая і ўскосная

У сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя нямецкі палітолаг Карл Шміт апублікаваў невялікае сачыненне «Дыялог пра ўладу і пра доступ да валадара». Абмяжуюся адной цытатай: «Нават самы абсалютны манарх вымушаны абапірацца на паведамленні і данясенні і залежыць ад сваіх дарадцаў. Незлічонае мноства вестак і фактаў, прапаноў і здагадак навальваецца на яго дзень за днём, гадзіна за гадзінай. З гэтага бяскончага бушуючага мора праўды і хлусні, сапраўднага і верагоднага нават самы разумны і магутны чалавек можа набраць у лепшым выпадку толькі некалькі кропель».

Такім чынам, нічога асабліва беларускага ў пытаннях інфармавання АП няма. Неабмежаваная ўлада ў аўтарытарна-таталітарных сістэмах толькі для назіральніка збоку выглядае такой. Па факце ж прамая ўлада кіраўніка стварае вакол сябе прастору ўскоснай улады. Таму той, хто інфармуе кіраўніка, мае сваю частку ад нібыта маналітнай улады.

Смерць публічнай палітыкі ў Беларусі дэ-юрэ азначае яе ўваскрашэнне дэ-факта «пад дыванам». Пазбаўленне насельніцтва права на адкрытае адстойванне сваіх інтарэсаў надзяляе каляўладныя групоўкі магчымасцю змагацца за свае вузкакарпаратыўныя інтарэсы, ігнаруючы пры гэтым інтарэсы насельніцтва (электарату).

Асноўная зброя ў гэтай барацьбе — запалохванне валадара. Той, хто імкнецца атрымаць сваю порцыю ўскоснай улады, павінен нявайсці пагрозу і прапанаваць праграму па яе мінімізацыі. Так нараджаюцца шматлікія праграмы бяспекі: ад харчовай да інфармацыйнай. У гэтай барацьбе сілавы блок мае натуральную перавагу ў адносінах да канкурэнтаў, бо пагроза жыццю ўладара стаіць першай у агульным спісе пагроз.

Праілюструю сказанае на прыкладзе «Плошчы» — сілавога разгону пратэстнай акцыі 19 снежня 2010 года.

У якасці пункту адліку возьмем 1 студзеня 2007 года. Новы год пачаўся для беларускай мадэлі з двухразовага павышэння цаны на газ і скончыўся двухразовым ростам знешняга доўгу. Адказ на газавы выклік улада сфармулявала восенню. Яго цэнтральны элемент — лібералізацыя эканомікі з мэтай прыцягнення знешніх інвестыцый, што, у сваю чаргу, запатрабавала перамяшчэння ў рэйтынгу спрыяльнасці ўмоў вядзення бізнесу («Doing Business») з другой сотні краін у трэці дзясятак.

Праца закіпела. Па выніках 2010 года Беларусь заняла 64-е месца ў рэйтынгу. Лібералізацыя, хай і вельмі абмежаваная, прывяла да пераацэнкі ўкладу эканамічнага і сілавога блокаў у падтрыманне стабільнасці на карысць першага.

Адказ з боку сілавікоў быў чаканы. Рэкамендую перачытаць прэс-канферэнцыю АП, якую ён даў на наступны дзень пасля «Плошчы». Выбары–2010, па яго словах, — гэта бязмежжа малойчыкаў, якія пусцілі ў ход выбухоўку. Гэта запалохванне і пагрозы чальцам участковых камісій, большасць з якіх жанчыны. Гэта спробы подкупу старшыняў камісій. Пералік страшылак можна лёгка працягнуць.

Вось такі ўзровень інфармаванасці! Цікава, з якога пальцу ён усё гэта высмактаў?

Галоўны вынік «Плошчы» — адмова ад праграмы эканамічнай лібералізацыі. Сілавікі не толькі аднавілі сваю вядучую ролю пры размеркаванні ўскоснай улады, але і забяспечылі сабе зачын на будучыню, істотна адкарэктаваўшы «карціну свету» АП. Яе цэнтральным персанажам з гэтага часу стане ўзброены баявік, гатовы ў любую хвіліну выконваць злачынныя каманды сваіх заходніх гаспадароў.

## Карцінка для адзінага гледача

Падзеі сакавіка 2017 года развіваліся ўжо паводле знаёмага нам сцэнару. Яго першы акт — запалохванне АП, у чым ён шчыра і прызнаўся: «Мяне вельмі турбуе тая інфармацыя, якую я атрымліваю». Яшчэ б! Гранаты, начыненыя «нейкім парашком»; ямы, напоўненыя да краёў зброяй, арматурай, сякерамі, нажамі... Ну як пасля такой інфармацыі ні даць каманду павыкалупваць правакатараў, як разынкі з булкі!

Павел Усаў сумняваецца ў магчымасці сілавікоў узгадняць свае дзеянні з прычыны адсутнасці каардынацыйнага цэнтра. Прызнаюся, такога кшталту сумневы мяне не наведваюць. Мяркую, што праблему каардынацыі яны выдатна вырашаюць не толькі ў межах «дзяржавы для народа», але і са сваімі калегамі па Саюзнай дзяржаве, гісторыя якой не ў апошнюю чаргу — гэта гісторыя гандлёвых «войнаў».

На працягу двух дзесяцігоддзяў пераможцам у гандлёвых «войнах» нязменна выходзіла Беларусь, і ўменне АП адстойваць нацыянальныя інтарэсы тут ні пры чым. У Крамлі справядліва лічылі, што танней прадухіліць хаос у свайго адзінага саюзніка, чым змагацца з яго наступствамі.

«Крымнаш» і спароджанае ім абвастрэнне адносін паміж Расіяй і Захадам запатрабавалі ад АП прынцыпова іншага ўзроўню палітычнай падтрымкі Крамля. Аднак напалоханы эканамічным крызісам у Расіі, ён адмовіўся складаць усе яйкі ў адзін кошык і прадэкларараваў чарговую лібералізацыю.

«Свята непаслушэнства» прымусіла Крэмль шукаць дадатковыя сродкі для прымусу АП да выканання саюзніцкіх абавязацельстваў, і ў якасці такога сродку, магчыма, быў абраны кіраваны хаос. Таму не выключана, што выніковая «карцінка», якую мы назіралі 25 сакавіка, — гэта вынік сумеснай творчасці сілавікоў Саюзнай дзяржавы, і стваралася яна для адзінага гледача, і гэты глядач — АП.



**Праграма «Саюзны тэлевізар–2» так і не пабачыла свет. Расійскія вытворцы зразумелі, што нашмат больш выгадна ствараць у сябе зборачныя вытворчасці замежных брэндаў**

# Феерычныя саюзныя правалы



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Нядаўна холдынг «Гарызонт» паведаміў пра распрацоўку новага сучаснага тэлевізара. «Мы разлічваем ствaрыць сучасны беларускі тэлевізар, які не будзе саступаць «Sony» па функцыяналу і якасці, — сказалі прадстаўнікі холдынгу. — «Гарызонт» вырабляе недарагія тэлевізары для масавага спажыўца, але мы хочам, каб у нашай лінейцы з'явіліся і мадэлі больш высокага ўзроўню».**

Яшчэ ў верасні 2016-га было абвешчана, што японская карпарацыя «Panasonic» арганізуе ў Беларусі зборачную вытворчасць тэлевізараў. Вытворчасць арганізаваная па прынцыпе кантрактнай зборкі, на базе «Гарызонту». Сёння беларуская «Панасонікі» ўжо пастаўляюцца на расійскі рынак.

Варушыцца і віцебскі «Віцязь», які наладзіў у сябе буйнавузлавую зборку тэлевізараў з кітайскіх блокаў. Усё гэта — спробы адрадзіць у Беларусі ўласную вытворчасць тэлевізараў. Адрадзіць — таму што ў нейкі момант гэтая вытворчасць цалкам спынілася. Адбылося гэта ў кастрычніку 2015-га, калі беларускія прадпрыемствы выпусцілі роўна 0 (нуль) тэлевізараў.

Як крах беларускай тэлеіндустрыі стаўся магчымы пасля беларуска-расійскай праграмы «Саюзны тэлевізар», задачай якой было, наадварот, нарасціць выпуск тэлевізараў на заводах Расіі і Беларусі?

### Нізкі старт

Напрыканцы 1990-х гадоў дэпутат расійскай Дзярждумы, чалец Камісіі па эканамічнай палітыцы Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, у мінулым інжынер-радыёэлектроншчык з дваццацігадовым стажам Анатоль Локаць прапанаваў даць штуршок развіццю эканомікі СД праз масавую вытворчасць сучасных тэлевізараў. «У свеце існуе мноства прыкладаў таго, як высілкі, скіраваныя на выпуск нейкіх спажывецкіх тавараў — аўтамабіляў, жылля, якаснага шырспажыву — дапамагалі краінам пераадолець эканамічныя цяжкасці», — тлумачыў ён сваю пазіцыю.

Так нарадзілася праграма «Саюзны тэлевізар», якая была зацверджаная ў 1998-м (з бюджэтам 300 мільёнаў расійскіх рублёў), а яе рэалізацыя пачалася ў 1999 годзе. У якасці дзяржзаказчыкаў выступілі Расійскае агенцтва па сістэмах кіравання (РАСУ) і Міністэрства прамысловасці РБ. З расійскага боку ў праграме ўдзельнічалі Цэнтральная кампанія МФПГ «Электронныя тэхналогіі» (галаўны выканаўца), наўгародскае вытворчае аб'яднанне «Квант», маскоўскі завод «Рубін», Маскоўскі навукова-даследчы тэлевізійны інстытут (МНИТИ), ААТ «Расійская электроніка» і завод імя Казіцкага (Санкт-Пецярбург). З беларускага боку ў праграму ўвайшлі мінскія ВА «Гарызонт», НВА «Інтэграл» і віцебскае ВА «Віцязь». Праграма фінансавалася з бюджэту Саюза Расіі і Беларусі (пераважна), а таксама з уласных сродкаў прадпрыемстваў.

Да 1998 года ў Расіі вытворчасць тэлевізараў наблізілася да нуля. У беларусаў справы ішлі нашмат лепш дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы. Указам Лукашэнкі «Гарызонт» і «Віцязь» атрымалі шматлікія палёгкі: былі адтэрмінаваныя выплаты крэдытаў, на некаторы час адменены ПДВ, дазволены бязмытны ўвоз камплектуючых. Як вынік, тэлевізійная галіна прамысловасці не спыняла працу. Прадпрыемствы знізілі выпуск тэлевізараў да 400 тысяч апаратаў на год, але сам тэхналагічны ланцужок працягваў працаваць.

У гэтай сітуацыі расійскія прадпрыемствы былі зацікаўленыя ў кааперацыі з беларускімі калегамі для адраджэння сваёй тэлевізійнай вытворчасці. А фінансаваць гэта адраджэнне павінен быў бюджэт Саюзнай дзяржавы. У прыватнасці, коштам сродкаў праграмы «Саюзны тэлевізар» Наўгародскі завод «Квант» («Садко») і санкт-пецярбургскі імя Казіцкага («Вясёлка») аднавілі вытворчыя лініі, набылі новае абсталяванне, то бок цалкам пераасталяваліся. Частка грошай перапала і беларускім «Гарызонту» ды «Віцязю».

Вылучаныя сродкі дазволілі «Гарызонту» практычна падвоіць выпуск прадукцыі. У 2001 годзе нашы тэлевізары займалі на ўнутраным рынку Беларусі і Расіі прыкладна 30% (у сярэдзіне 1990-х гадоў гэтая лічба складала 3–5%). Адпаведна, на першым этапе праграма рэалізоўвалася адносна паспяхова. Як распавёў «Новаму Часу» генеральны дырэктар міждзяржаўнай фінансава-прамысловай групы «Электронныя тэхналогіі» Уладзімір Вярбіцкі, у межах праграмы ў 2000 годзе было выпушчана 676,3 тысячы тэлевізараў. Гэта значыць, з 1998 года аб'ёмы вытворчасці выраслі ў 1,43 разы. Але ўжо ў першым паўгоддзі 2001-га прадпрыемствы, што ўдзельнічалі ў праграме, выпусцілі на 30 тысяч тэлевізараў менш запланаванай колькасці з-за перабояў з пастаўкамі кінескопаў.

Тады ж — у 2001-м — пачалося ўзгадненне праграмы «Саюзны тэлевізар–2» на 2002–2006 гады, з бюджэтам каля 20 мільёнаў долараў. Меркавалася, што праз два-тры гады гэтая праграма акупіць сябе, а яе рэалізацыя дазволіць ствaрыць каля ста тысяч працоўных месцаў: на тэлевізійных заводах, на іх прадпрыемствах-партнёрах, у рамонтных майстэрнях, у крамах.

Аднак на замену кінескопным тэлевізарам прыйшлі плоскапанэльныя (плазменныя і LCD), пачаўся пераход на лічбавае вяшчанне. Кітайскія і іншыя азіяцкія вытворцы адрэагавалі імгненна — у адрозненне ад прадпрыемстваў Беларусі і Расіі.

### Пераможны прагматызм

Праграма «Саюзны тэлевізар–2» так і не пабачыла свет. Расійскія вытворцы зразумелі, што нашмат больш выгадна ствараць у сябе зборачныя вытворчасці замежных брэндаў. Калі ў 2004 годзе ў Расіі прадавалася каля 40% тэлевізараў, выробленых у Расіі сусветнымі брэндамі, дык у 2005 годзе — ужо 70%. Экспарт беларускіх тэлевізараў на расійскі рынак хутка абваліўся. З 2010-га ўжо выробленыя ў Расіі тэлевізары запоўнілі беларускі рынак.

Два яркія прыклады таго, як развальваўся «Саюзны тэлевізар», — гісторыі маскоўскага заводу «Рубін» і беларускага «Гарызонта». «Рубін», які нароўні з «Гарызонтам» быў ключавым удзельнікам праграмы «Саюзны тэлевізар», з 1997 года кантраляваў выхадзец з Беларусі Аляксандр Міляўскі. Грошы на прыватызацыю «Рубіна» ён зарабіў на перапродажы заходняй электронікі ў Расіі.

У 1999 годзе Міляўскі перанёс тэлевізійную вытворчасць у Варонеж, а ў 2003 годзе прадаў яе кампаніі «Rolsen». З тых часоў ААТ «МТЗ «Рубін» займаецца выключна кіраваннем камерцыйнай нерухомасцю і дэвелапментам (валодае гандлёвым цэнтрам «Горбушкин двор» і офісным цэнтрам). Характэрна, што «Рубін» у розныя гады ўзначальваў экс-прэм'ер Беларусі Уладзімір Ярмошын, а затым (і да гэтага часу) — экс-кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў.

«Гарызонт» яшчэ ў 2004 годзе пачуваўся досыць упэўнена. У яго спрабавалі інвеставаць «Panasonic» і «Sony», але Лукашэнка асабіста адмовіўся ад такіх інвестыцый.

Праз 12 гадоў былы прамысловы лідар стаў фактычна бездапаможным. Вось толькі некаторыя дадзеныя Белстата. У 2012 годзе ў Беларусі было выпушчана 594 тысячы тэлевізараў, у 2014-м — 92 тысячы, у 2015-м — 22 тысячы.

У самім холдынгу сітуацыю тлумачаць выключна эканамічнымі чыннікамі: «Нават калі мы будзем закупляць самыя танныя кітайскія камплектуючыя, сітуацыю гэта не выправіць. Па-першае, галоўнае ў кошце — гэта LCD-панэль, а спіс іх вытворцаў вельмі малы, яны трымаюць кошты. Па-другое, мы па аб'ёме вытворчасці ўсё роўна не можам параўнацца з LG, Samsung, Supra або Philips. У іх прынцыпова іншыя аб'ёмы, у іх зборка па ўсім свеце, а таму сабекошт на адзінку прадукцыі ніжэй. Нарэшце, нам прыходзіцца на сабекошт вешаць усю сацыялку, усе пустуючыя цэхі і прастойваючы магутнасці. Так што якімі б нізкімі ні былі зарплаты нашых працаўнікоў, кошт на беларускія «Гарызонты» ўсё роўна будзе неканкурэнтаздольны».

### Іншыя саюзныя праграмы

Натуральна, «Саюзны тэлевізар» — толькі адна з шэрагу праграм Саюзнай дзяржавы. Іншыя праграмы папросту былі менш гучнымі. Пры тым на іх выдаткоўваецца каля 90% сродкаў саюзнага бюджэту. Але большасць праграм нельга назваць асабліва паспяховымі. А вось правальныя — ёсць.

Напрыклад, не далі плёну праграмы «Развіццё і ўкараненне ў дзяржавах — удзельніцах Саюзнай дзяржавы навукаёмістых кампутарных тэхналогій на базе мультыпрацэсарных вылічальных сістэм», «Распрацоўка нанатэхналогій стварэння матэрыялаў, прылад і сістэм касмічнай тэхнікі і іх адаптацыі да іншых галін тэхнікі і масавай вытворчасці», «Распрацоўка і стварэнне новага пакалення мікрасістэматэхнікі і ўніфікаваных інтэграваных сістэм падвойнага прызначэння на яе аснове», «Распрацоўка і засваенне серый інтэгральных мікрасхем і паўправадніковых прыбораў для апаратуры адмысловага прызначэння і падвойнага ўжывання».

Па ўсіх пералічаных праграмах грошы наўпрост марнаваліся. Праблема ў тым, што ва ўсіх выпадках прафінансаваныя з бюджэту СД тэхналогіі ўсё адно адставалі ад аналагічных замежных тэхналогій — як па кошце, так і па дасканаласці. А таму папросту не здолелі выйсці на рынкі, знайсці спажыўцоў і хаця б акупіцца. Праўда, не вядома, ці ставілася наогул для гэтых праграм такая мэта.

# Прыгожы бізнэс: даходы пакуль трымаюцца, але ўмовы пагаршаюцца



Таццяна ШАПУЦЬКА

**Як адбіўся эканамічны крызіс на сферы прыгажосці? Ці ахвотна цяпер кліенты нясуць свае грошы на стрыжкі ды манікюры? Якія маркетынгавыя фішкі дапамагаюць «трымацца на плаву»? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да дырэктаркі мінскага салона прыгажосці Святланы Жукавай і прыватнай прадпрымальніцы-цырульніцы Ірыны. І атрымалі нечаканыя адказы!..**

### Апора бізнэсу — сталыя кліенты

Сталічны салон прыгажосці «Фабрыка мрояў» месціцца ў самым цэнтры гораду, на вуліцы Змітрака Бядулі. Па доўгай лесвіцы спускаюся ўніз пад зямлю — і апынаюся ў невялікім утульным салонным памяшканні, дзе мяне ветліва сустракае дырэктарка Святлана Жукава і гасцінна прапаноўвае фірмовую гарбату з зёлак, якія яна сама збірае і высушвае летам. Смачна! Мы ўсаджваемся ў пакойчыку для манікюру, які пакуль што пустуе. Аднак гэта не значыць, што кліентаў няма.

«Каб сказаць, што мы адчулі масавы адток кліентаў, то не. Але ж заўважна, што цяпер яны гатовыя выдаткаваць менш грошай на паслугі, чым раней, — напрыклад, замаўляюць больш простую стрыжку. Альбо звычайны манікюр, без роспісу на пазногцях, ці робяць той жа манікюр радзей, а не кожны тыдзень, як раней», — кажа Святлана Жукава пра наступствы занепаду ў эканоміцы для свайго бізнэсу.



Святлана Жукава

Паводле яе слоў, у салон прыходзяць і людзі «з вуліцы», але ж асноўная частка наведнікаў — гэта сталыя кліенты, якія шмат гадоў карыстаюцца паслугамі і ўжо прыводзяць сваіх сямейнікаў. Мажліва, менавіта таму салон не пустуе.

«Да таго ж, мы аказваем больш гігіенічныя ды фізіялагічныя паслугі — напрыклад, мы робім чыстку ды масаж твару, але не робім амаладжвальныя ін'екцыі пад скуру. Робім манікюр, але не нарошчваем штучныя пазногці. Нашы працэдуры больш натуральныя ды патрэбныя нават проста з гігіенічных мэтаў, а не толькі дзеля прыгажосці, таму яны больш запатрабаваныя ў кліентаў, і яны не гатовыя цалкам адмовіцца ад іх дзеля эканоміі», — лічыць Святлана Жукава.

### Праверкі, праверкі і яшчэ раз праверкі

Цікаўлюся, якія траты найбольш фінансава балючыя для салона прыгажосці? Зразумела, што арэнда ў цэнтры горада нятанная, аднак на дадзены момант, кажа спадарыня Святлана, салон не гатовы пераязджаць кудысьці ў раён — гэта пацягне і страту часткі сталых кліентаў, і наогул пераезд вылеціць у капейку, на гэта грошай у салона зараз няма. Святлана Жукава адзначае, што найбольш турбуюць, канешне, высокія падаткі і пастаянныя праверкі, якія, як бы паспяхова ні прайшлі, заўжды заканчваюцца штрафамі: «Неафіцыйна правяраючыя нам часта кажуць — ну вы ж разумееце, мы павінны абавязкова выпісаць за нешта штраф. А за што яго выпісаць — можна знайсці заўжды, хоць мы стараемся выконваць свае абавязкі бездакорна і ўсё трымаем у чысціні. Тазікі могуць быць няправільна, на думку правяраючых, складзеныя — ужо штраф. І турбуюць не столькі сумы штрафаў, хоць

# Справа майстра баіцца

Сяргей ПУЛЬША

**Кажуць, што тым, хто любіць кілбасу і палітыку, не варта ведаць, як робіцца і першае, і другое. Гэта ж тычыцца і жаночай прыгажосці. Мужчыны любяць глядзець на прыгожых жанчын, аднак ім лепей не ведаць, чаго гэта прыгажосць каштуе. Каб не страціць апетыт і сон, калі пачуюць, напрыклад, пра «экранаванне валасоў». Ці каб не з'ехаў дах ад коштаў.**

Складаючы гэта агляд, я зразумеў, што ў сферы прыгажосці далёка не ўсё залежыць ад «крутасці» салона або наяўнасці сродкаў у кліента. Справа ў тым, што цана — гэта далёка не адзінае, на што глядзяць кліенткі. Важна ўсё — чысціня ў салоне, ветлівасць персаналу, увага адміністратара... З такіх дробязяў і складаецца імідж установы.

### На што звярнуць увагу

У Мінску, паводле звестак рэсурсу relax.by, існуе 331 салон прыгажосці. Гэта прыкладна адна штука на шэсць тысяч жыхароў. Не дзіва, што мы ўжо не прыходзім у цырульню проста так, а запісваемся «на час», як да лекара.

Прычым, з абывацельскага пункту погляду, цырульня — гэта такі прыбытковы бізнэс: ёсць рукі, ёсць грабянец і нажніцы, стрыжы сабе і зарабляй. На самай справе, усё не так. Асноўная частка выдаткаў цырульні — гэта якраз «расходныя матэрыялы»: шампуні, фарбы, лакі і іншае. У залежнасці ад іх якасці і вытворцы гэтых матэрыялаў у вялікай ступені залежыць як кошт паслуг, так і наяўнасць кліентуры.

Гэта трэба ўлічваць асабліва, бо бывалі ўжо прэцэдэнты. Адзін з салонаў прыгажосці абвясціў «акцыю» са стрыжкай па 4.99 BYN. Праўда, у гэты кошт «забыліся» ўключыць адэкалон, гелі для ўкладкі валасоў, фены і шампуні. Кліенты, якія «купіліся на замануху», былі вельмі расчараваныя, калі замест абяцаных 4.99 цана вырастала да 10 рублёў, пра што і пісалі абуральныя водгукі ў інтэрнэце.

Зрэшты, нягледзячы на суадносіны «адзін да шасці тысяч», падчас крызісу салоны прыгажосці ідуць на самыя радыкальныя меры, абы толькі прываблць і ўтрымаць кліента. Мноства нараканняў у жанчын выклікае афарбоўка валасоў. Ледзь-ледзь не патрапіў — і адценне ўжо не тое, што трэба. З мужчынамі, як правіла, прасцей, яны — як стары тэлевізар: для большасці з іх існуе толькі 16 колераў, і «персік — гэта садавіна, а не колер».

У змаганні за кліента, напрыклад, мінская студыя прыгажосці «Гармонія» прапануе афарбоўку валасоў фарбай кліента (ад 26,50 рублёў, такая ж паслуга, але без «кліенцкай фарбы» каштуе ад 36,80 рублёў). З аднаго боку, збіваецца кошт, з іншага — калі кліент прынёс не тую фарбу — вінаваты сам.

На які толькі крэатыў не ідуць салоны прыгажосці ў пагоні за кліентамі! Вы жадаеце проста пастрыгчыся ў цырульні «Pastelle Salons»? Выдатна, жаночая стрыжка — 20 рублёў кароткія валасы, 25 — валасы доўгія. Стрыжка топ-стылістам — на 7–10 рублёў даражэй. А хочаце — вакол вас будзе скакаць цэлы дырэктар? Яго паслугі ўтры разы даражэйшыя за звычайную стрыжку — стрыжка жаночая арт-дырэктарам (кароткія валасы) абыдзецца ў 60 рублёў.

### Хто тут VIP?

Прыгажосць, як вядома, патрабуе ахвяраў. Асабліва фінансавых. «Элітныя» і «VIP» салоны прыгажосці, нягледзячы на крызіс, трымаюць цэннік «на ўзроўні». Жаночая стрыжка ў сярэднім вагаецца ў раёне 55–60 рублёў (сярэдняя даўжыня валасоў).

А вось калі гэта прычоска (на мужчынскі погляд, паміж стрыжкай і прычоскай розніцы наогул ніякай), то цана вагаецца ад 75 да 85 рублёў. Не бярэм у разлік, вядома, прычоскі вясельныя — яны па цэнніку наогул зашкальваюць ад 100 да 120 рублёў. Вядомы салон «Iteira Sensation», які пазіцыяніруе сябе ў класе «эліт», нароўні са святочнымі прычоскамі прапануе нават «урачыстую ўкладку валасоў» (ад 156,90 рублёў).



**Шукаць салон па цэнавай катэгорыі — справа марная. Шукаць трэба майстра, і не важна, дзе ён працуе, — у VIP-салоне альбо ў цырульні другой катэгорыі**

З афарбоўкай валасоў усё зусім складана. Мы ўжо казалі: шмат што залежыць ад фарбы. У «элітны» салон, вядома, са сваёй фарбай не прыйдзеш. Таму і цэннік там адпаведны, і залежыць ад даўжыні валасоў і выкарыстаных прэпаратаў. У салоне прыгажосці «VIP ROOM» (назва кажа сама за сябе) за гэта давядзецца выкласці ад 99 рублёў (L'oreal Majirel, кароткія валасы) да 215 (L'oreal Inoa, вельмі доўгія). Дый гэта яшчэ не мяжа. У элітным салоне «ЭтуальSpa» афарбоўка вельмі доўгіх валасоў безаміячным фарбавальнікам абыдзецца ў 250 рублёў. Некаторыя такога месячнага заробку не атрымліваюць!

Яшчэ жанчыны любяць фарбаваць пазногці. Класічны (абрэзны) манікюр у «эліт»-салонах пачынаецца ад 27 рублёў і да 46,50 рублёў (класічны манікюр комплексны ў «Iteira Sensation»). Еўрапейскі манікюр — ад 27 да 35 рублёў, апаратны — ад 32 да 50 рублёў.

Паклапаціцца пра пазногці на нагах каштуе амаль столькі ж, як пра валасы на галаве: апаратны педыкюр — ад 50 да 66 рублёў, з пакрыццём лакам — ад 61 да 80 рублёў.

Танней за ўсё абыдзецца зрабіць бровы. Карэкцыя броваў каштуе ад 16 рублёў (простая) да 20 (складаная).

### Не VIP

У звычайных салонах прыгажосці ўсё гэта будзе каштаваць

яны і немалыя, колькі напружваюць самі гэтыя непатрэбныя праверкі. Калі салон клапоціцца пра кліентаў, іх здароўе ды камфорт, то і без правяраючых інструменты будуць трымацца ў чысціні, матэрыялы, зразумела, будуць закупацца якасныя — мы самі зацікаўленыя, каб у нас усё было ў парадку».

Святлана Жукава працуе ў салоне «Фабрыка мрояў» ужо 16 гадоў і кажа, што раней праверкі не былі такімі частымі ці надакучлівымі. Да таго ж, акрамя правяраючых, салон сутыкаецца з назойлівымі да неабгрунтаванымі просьбамі-патрабаваннямі ад розных дзяржаўных структур. Паводле спадарыні Святланы, яна рэгулярна атрымлівае стос лістоў з рознымі неадназначнымі просьбамі — напрыклад, падпісацца на нейкую канкрэтную газету ці набыць нешта канкрэтнае ў салон. «Далёка не ўсе чыноўнікі ўмеюць карэктна весці перапіску, і часам нават чытаць такія лісты дужа непрыемна. Напрыклад, аднойчы нам даслалі ліст з «просьбай» набыць абсталяванне для вонкавага відэаназірання. І ліст быў складзены такімі фразамі, што мы быццам бы спрыяем пагаршэнню крымінагеннай сітуацыі ў раёне. Было вельмі крыўдна: у нас за ўсе гады ніякіх падобных інцыдэнтаў не было, нам гэтае відэаназіранне зусім не патрэбнае, а нас абвінавачваюць у невядома чым — абы каб набылі, што яны прапануюць», — распавядае Святлана Жукава.

## Лепшая рэклама — тая, якая ад сэрца

Ці выкарыстоўвае салон якія-небудзь рэкламу, каб прывабліваць новых пакупнікоў? Паводле назіранняў Святланы Жукавай, самая надзейная рэклама — гэта калі раяць знаёмыя, але ж сучасных тэхналогій у салоне таксама не цураюцца — завялі сайт, старонкі ў сацыяльных сетках, рэгулярна прапануюць зніжкі на паслугі, арганізоўваюць розыгрышы падарункаў, праводзяць бясплатныя майстар-класы.

«Адмысловай маркетынгавай стратэгіі мы не распрацоўваем — але, напэўна, гэта не зусім прафесійна з нашага боку. Мы проста з майстрамі прыдумляем нейкія ідэі, яны могуць узнікаць спантанна, мы часта пра іх загадзя нават не паведамляем. Напрыклад, калі абвясцілі, што Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію, мы дарылі пачастункі ўсім нашым наведнікам. Усіх кліентаў заўжды частуем нашай травяной гарбаткай, многія яе дужа чакаюць. Гэта такія невялікія прыемнасці, якія радуюць і кліентаў, і нам узднімаюць настрой, дапамагаюць стварыць утульную атмасферу», — дзеліцца прафесійнымі сакрэтамі Святлана Жукава.

Часам нечакана для саміх сябе супрацоўнікі салона ўдзельнічаюць у сацыяльных акцыях. «Нядаўна да нас звярнуліся журналісты анлайн-часопіса «Имена» і распавялі пра дзяўчыну, хворую на спінальную мышачную атрафію (генетычнае захворванне, якое паступова забівае ўсе мышцы), якая ніколі не была ў салоне прыгажосці і марыць туды патрапіць. Канешне ж, майстры з задавальненнем зрабілі ёй сюрпрыз, і мы самі атрымалі бясцэнны досвед ад нашай сустрэчы», — гаворыць спадарыня Святлана. Таксама яна асабіста прымала ўдзел у здымках роліка курсаў беларускай мовы «Мова Нанова» з удзелам сусветна вядомага беларускага тай-баксёра Віталя Гуркова.

Па ініцыятыве Святланы Жукавай ужо некалькі гадоў беларуская мова паступова замацоўвае свае пазіцыі і ў салоне — так, старонка «Укантакце» цалкам вядзецца па-беларуску, майстры стараюцца прынамсі вітацца-развітвацца па-беларуску. Па словах Святланы Жукавай, нікога з супрацоўнікаў да ўжывання беларускай мовы не прымушаюць: «Я не лічу гвалт правільным метадам, патрэбна, каб чалавек сам дайшоў да гэтага. Нашы майстры стараюцца ўжываць ветлівыя беларускамоўныя выразы, асабліва калі наведнік беларускамоўны. Кліентам гэта прыемна». Нягледзячы на спрыянне беларускай мове, плыні беларускамоўных кліентаў у салон, на жаль, няма.

Святлана Жукава распавядае пра адваротны прыкры выпадак, калі мужчына прачытаў станоўчыя водгукі ў інтэрнэце, прыйшоў да іх, а майстар абслужыла па-руску. Пасля гэтага ён напісаў свой гнеўны водгук і заявіў, што больш ніколі не прыйдзе, нягледзячы на тое, што «Фабрыка мрояў» і не абвяшчала сябе цалкам беларускамоўным салонам.

Дарэчы, мужчыны — частыя наведнікі салона. Робяць і манікюр, і педыкюр, але самая папулярная паслуга — гэта камуфляж сівізны. Ну што ж, усім хочацца быць дагледжанымі!

## «Хачу захаваць кліентаў, таму трымаю цэны»

Індывідуальная прадпрымальніца Ірына (прозвішча не ўказваем па просьбе суразмоўцы) нейкі час працавала ў салоне, аднак сышла і адкрыла ІП, каб самастойна распараджацца сваім часам, кліентамі і не цярпець капрызаў гаспадыні. Ці складана ў крызісны час працаваць ІП і цалкам самастойна несці адказнасць за свае даходы?

«Я сышла з салона, найперш, каб набыць самастойнасць, а не дзеля вялікіх даходаў. Хаця калі ёсць напрацаваная база кліентаў, на сябе, канешне, працаваць выгадней, чым у салоне. Відавочна, фінансавы крызіс адчуваецца. Нехта па-ранейшаму ходзіць стрыгчыся, але фарбуецца дома. Нехта (збольшага працуючыя пенсіянеры) сталі проста радзей прыходзіць. Людзі хочуць выглядаць хораша пры любым фінансавым становішчы, пытанне — якім чынам. Мае кліенты — збольшага людзі сярэдніх даходаў, таму я стараюся трымаць цэны. Так, узровень заробкаў знізіўся, але я лічу прынцыпова важным захаваць кліентаў. Тым больш, з многімі з іх мы ўжо амаль сваякі, — распавядае Ірына.

Расходаў у Ірыны хапае: штомесячны адзіны падатак, арэнда памяшкання, аплата прыборкі і прання рушнікоў, унёскі ў страхавы пенсійны фонд (якія ўвесь час растуць) — на гэта ўсё майстар выдаткоўвае каля 600 рублёў на месяц: «Яшчэ штомесячная аплата касавага апарата, які ІП навязалі, — 13 рублёў. Ну і, канешне, расходныя матэрыялы, якія павышаюцца ў цане раз на 2–3 месяцы. У месяц яны абыходзяцца недзе ў 300 рублёў. Кошты на многія фарбы ды інструмент у нас проста неадэкватна завышаныя — гэта асобная праблема». Да гэтых расходаў яшчэ трэба дадаць штрафы.

«Дзякуй Богу, праверкі не штомесяц. Але ўсё адно, гэта вечныя паборы. Словы кіраўніка дзяржавы пра тое, што малы бізнэс не будуць чапаць праверкі, не выконваюцца. А праверкі арганізуюцца толькі з адной мэтай — выпісаць штрафы. Гэта вельмі напружвае. Хацелася б працаваць спакойна, мець магчымасць планаваць і развівацца. З кожным годам гэта рабіць усё цяжэй. Засмучае няўпэўненасць, ці ты зможаш працаваць заўтра», — скардзіцца Ірына.

На рэкламу Ірына асабліва не траціцца. Па словах майстра, найлепшая рэклама — гэта прычоска твайго кліента. Такім чынам, за вылікам расходаў на жыццё Ірыне застаецца каля 900 рублёў. Аднак бываюць і нечаканасці — напрыклад, у кастрычніку засталося ўсяго 500 рублёў.

«Гэта спецыфіка працы на сябе — расход практычна заўжды аднолькавы, а даходы розныя. Але мяне гэта задавальняе. Можна было б, напэўна, і больш працаваць і зарабляць (у мяне два выходныя на тыдзень), але для мяне праца — радасць, і я не хачу пераўтвараць яе выключна ў канвеер для зараблення грошай», — гаворыць Ірына.

Пакуль што Ірына не плануе адкрываць сваю цырульню — іх у Мінску шмат, многія закрываюцца, не вытрымаўшы канкурэнцыі. Ды і боязна ўкладваць грошы ў справу, калі ты не ўпэўнены, што зможаш працаваць заўтра.

значна танней. Аглядаючы дадзеныя паслугі, са здзіўленнем заўважаеш, што нават тыя ўстановы, якія пазіцыянуюць сябе як звычайныя «цырульні», прадастаўляюць дастаткова шырокі спектр паслуг, што ўключае ў сябе не толькі стрыжкі і ўкладкі, але і манікюр-педыкюр.

Напрыклад, цырульня «Бездакорнасць». Здавалася б, чаго можна чакаць ад установы з назвай з савецкага мінулага? Але там робяць не толькі стрыжкі і манікюр, але нават і СПА-працэдуры.

Ва ўстановах без прэфікса «эліт» жаночую мадэльную стрыжку можна зрабіць ад 12 да 28 рублёў (28 — стрыжка гарачымі нажніцамі ў студыі прыгажосці «Гармонія»). Урачыстыя прычоскі пачынаюцца ад 26 рублёў і дасягаюць 90 рублёў (вячэрняя прычоска арт-дырэктарам у «Pastelle Salons», доўгія валасы).

Як правіла, салоны прыгажосці сярэдняй коштавай катэгорыі цэны на афарбоўку валасоў паказваюць без уліку фарбы або з «фарбай кліента».

Афарбоўка валасоў матэрыялам кліента каштуе ад 15 рублёў, альбо, як піша салон прыгажосці бізнэс-класа INCANTO, «афарбоўванне валасоў (сярэднія) — 42,00 рублі без уліку фарбавальніка, марка фарбавальніка на выбар кліента (афарбоўванне + мыццё + сушка з прэпаратамі)». У сярэднім афарбоўка валасоў «не сваёй» фарбай абыходзіцца ўдвая даражэй і каштуе ў межах 30–40 рублёў. Прычым, у некаторых «сярэдніх» салонах вам прапануюць тое, што не прапануюць у «элітах». Напрыклад, 3D афарбоўку — ад 53,10 рублёў, альбо «крэатыўнае афарбоўванне валасоў» — ад 64 рублёў.

А яшчэ валасы, аказваецца, можна не толькі экранаваць, але і ламінаваць.

Тая ж самая гісторыя з манікюрам. Дзе ў салонах класа «эліт» цана пачынаецца, там у звычайных салонах яна заканчваецца. Класічны манікюр можна зрабіць па кошце ад 8 да 26 рублёў (класічны абрэзны манікюр з пакрыццём лакам). Еўрапейскі манікюр — ад 13 да 18 рублёў. Апаратны манікюр — ад 11 да 18 рублёў.

Класічны педыкюр у сярэднім каштуе ад 20 да 28 рублёў. Апаратны педыкюр — ад 25 да 37 рублёў. Апаратны педыкюр з пакрыццём лакам + масаж стоп абыдзецца ад 35 да 57 рублёў (з доўгачасовым пакрыццём «фрэнч»).

Мадэляванне і карэкцыя броваў, афарбоўка броваў і веек у сярэднім каштуюць па 5 рублёў.

## Рэгіёны

Што тычыцца «прыгожага бізнэсу» ў беларускіх рэгіёнах, то там ён, можна сказаць, больш сціплы за сталічны і менш прэтэнцыёзны. У прыватнасці, альбо няма, альбо вельмі мала салонаў, якія пазіцыянуюць сябе як «элітны» або «VIP».

Затое спектр паслуг, што яны аказваюць, нічым не адрозніваецца ад сталічных, у некаторых выпадках — пераўзыходзіць іх, і цэннік — у «сярэдняй» цэнавай катэгорыі. Што здзіўляе — па краіне разбежка мінімальная, як быццам паслугі ў гэтай сферы рэгулю- юцца дзяржавай. Жаночая мадэльная стрыжка з укладкай у Гомелі каштуе 15,10BYN. У Гродне і Брэсце — 15 рублёў, у Магілёве — 15.50 (стрыжка з мыццём галавы і ўкладкай па форме). Афарбоўка сярэдніх валасоў — ад 20 рублёў без кошту фарбы (Гродна) да 75,00 рублёў (Брэст, з выкарыстаннем прафесійных фарбавальнікаў Revlon, EMME, Estel, Salerm і аднаразовых матэрыялаў).

Дзіўна салідарная цана на бровы — ва ўсіх рэгіёнах мадэляванне і афарбоўка броваў, як правіла, знаходзіцца ў коштавым дыяпазоне 4–5 рублёў.

У Брэсце гігіенічны манікюр можна зрабіць за 13 рублёў, апаратны — за 18. У Магілёве класічны манікюр каштуе 7 рублёў, а апаратны — 9. У Гродне класічны манікюр пацягне на 11 рублёў, еўрапейскі — на 13,50 рублёў У Гомелі манікюр абыдзецца ад 7 да 9 рублёў.

Педыкюр у Брэсце пачынаецца ад 18 рублёў, у Магілёве — 19, у Гродне — 22, а ў Гомелі — ад 15 рублёў. Як бачым, кошты на асноўныя паслугі салонаў прыгажосці ў Беларусі «ўстаканіліся» і не моцна адрозніваюцца ў залежнасці ад рэгіёна.



## Дык VIP ці не VIP?

Як ужо адзначалася вышэй, VIP-салон або не — прынцыповага значэння, насамрэч, не мае. Бо залежыць усё, на самай справе, не ад «крутасці» салона, і нават не ад кампанентаў і расходнікаў, што выкарыстоўваюцца, лакаў і фарбаў (хоць яны і маюць вялікае значэнне). Усё залежыць ад майстра, які робіць працэдуру, і нават ад таго, наколькі гэты майстра ў гуморы ў дадзены момант часу.

Чытаючы водгукі пра салоны прыгажосці, рэгулярна сутыкаешся з праявамі падзякі (ці не падзякі) асобным майстрам. Бывае і так, што адзін і той жа майстар аднаму кліенту спадабаўся (ветлівы, камунікатыўны, прафесіянал), а другому кліенту, быццам бы хаміў, зневажаў, нешта не так зрабіў, памыліўся.

Таму шукаць салон па цэнавай катэгорыі — справа марная. Шукаць трэба майстра, і не важна, дзе ён працуе, — у VIP-салоне альбо ў цырульні другой катэгорыі. Майстра, які б зразумеў, што вам трэба, што вам спадабаецца і што вам пасуе. Можна і пасля наведвання звычайнай «бюджэтнай» цырульні выглядаць як каралева, а з VIP-салона сысці расчараванай. Усё залежыць ад таго, ці знойдзеце вы «свайго» майстра.

Калі знайшлі — вам моцна пашанцавала. Некаторыя ў такіх пошуках праводзяць, напэўна, не адзін дзясятак гадоў.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Чакаем чарговы рэферэндум?

На выбарах у Паўднёвай Асеціі перамогу атрымаў спікер парламента Анатоль Бібілаў. Паралельна з абраннем новага кіраўніка краю прайшоў і рэферэндум, на якім амаль 80% выбаршчыкаў прагаласавалі за тое, што Паўднёвую Асецію варта перайменаваць у Дзяржаву Аланія (найменне «Рэспубліка Паўднёвая Асецція», тым не менш, захоўваецца як раўназначнае). Яшчэ ўчора лічылася, што такі рэферэндум быў патрэбны Маскве, каб на мапе з'явілася тая самая «Аланія». Бо слова «Аланія» таксама прысутнічае ў назве суб'екта Расіі Паўночнай Асеціі — Аланіі, што стварае падставы для аб'яднання асецінскіх рэспублік у складзе Расіі. Аднак цяпер паўстала новая версія. Незвычайны рэферэндум быў патрэбны, каб прыцягнуць выбаршчыкаў. Сапраўды, нашто абывацелю хадзіць на выбарчы ўчастак, калі перамога Бібілава як чалавека Масквы была відавочнай? Іншая справа — перайменаванне краю. Лічыцца, што пасля Паўднёвай Асеціі ў Расіі таксама абмяркоўваюць такога кшталту метады падвышэння яўкі — сумяшчэнне рэферэндумаў па значных пытаннях з прэзідэнцкімі выбарамі ўвесну наступнага года. Пакуль дзяжурная тэма плебісцыту — права грамадзян самім абіраць мэра. Дарэчы, апошні рэферэндум праходзіў у Расіі з нагоды Канстытуцыі 1993 года. Тады ён выклікаў падвышаны ажыятаж і палітычны драйв сярод насельніцтва.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Гульня — зброя пралетарыяту

Французскі левырадыкал Жан-Люк Меленшон працягвае ўздымацца ў рэйтынгах кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, якога французы будуць абіраць напрыканцы красавіка. Атрымаўшы літаральна за тыдзень 7 пунктаў, ён выйшаў на трэцяе месца ў спаборніцтве за Елісейскі палац. Такую дынаміку журналісты тлумачаць у тым ліку інтарэсам публікі да кампутарнай гульні «Fiscal Kombat». Гэта, дастаткова прымітыўна на фоне сучасных кампутарных забаваў гульня, героем якой з'яўляецца сам Меленшон. Паводле сцэнару, Меленшон крочыць па вуліцах і натыкаецца на замежных французскіх алігархаў і палітыкаў. Задача гульца — схапіць буржуя, які вымушаны адкупіцца нейкай сумай у бюджэт Францыі. Каб стаць пераможцам, трэба стрэсці сімвалічныя 270 мільярдаў еўра — менавіта на столькі Меленшон абяцае папоўніць бюджэт Францыі за кошт падаткаў з багатых у выпадку свайго абрання. Дарэчы, Меленшон не спыніўся на гэтым у выкарыстанні новых тэхналогій у палітычных мэтах. 11 красавіка яго галаграма з'явілася на мітынгах у некалькіх гарадах краіны.

**Паводле французскай прэсы**

### КАНАДА. Далучыць Шатландыю

Уплывовае канадскае выданне «The Globe and Mail» заклікала ўрад краіны прапанаваць Шатландыі стаць часткай Канады. Такі варыянт, на думку журналістаў, цалкам рэальны ў выпадку, калі шатландцы на запланаваным рэферэндуме прагаласуюць за выхад са складу Вялікабрытаніі. Увогуле, у Шатландыі дамінуе ідэя пра тое, што край павінен стаць незалежнай дзяржавай — сябрам ЕС. Між тым, «The Globe and Mail» піша, што статус канадскай правінцыі дасць Эдынбургу значна больш бонусаў. Шатландыя будзе не толькі новым эканамічным нервам Канады. Маючы за спінай Канаду, шатландскі ўрад можа стаць моцным гульцом еўрапейскай палітыкі. І самае галоўнае — адразу будзе вырашана вельмі балючая праблема стабільнасці новай шатландскай валюты. Лічыцца, што без субсідый з Лондану яна адразу абваліцца. Такога сцэнару можна пазбегнуць, калі гарантам шатландскага фунта будуць канадскія банкі. Нягледзячы на ўсе плюсы, якія «The Globe and Mail» абяцае шатландцам у выпадку ўніі з Канадай, тыя вельмі асцярожна адрэагавалі на прапанову. Паводле большасці каментатараў, праект далучэння да Канады вельмі не зразумелы для звычайнага шатландца.

**Паводле канадскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Бердымухамедаў напісаў гімн алімпіяды

Праўда, гэта гімн не сусветнай, а пакуль толькі Азіяцкай алімпіяды, якая запланаваная на гэтую восень у Туркменістане. Як і кожнаму салідному мерапрыемству, алімпіядзе быў патрэбны гімн. Таму ў сакавіку быў абвешчаны конкурс, у якім удзельнічалі ў асноўным культурныя супрацоўнікі краіны. У пачатку красавіка канкурсанты апрылюднілі свае творы на спецыяльным канцэрце, у межах якога мусіў быць названы пераможца. Скончыўся той канцэрт нечакана. У фінале на сцэну выйшаў сам туркменскі прэзідэнт Бердымухамедаў і прапанаваў у якасці варыянту галоўнай песні спаборніцтваў свой тэкст пад назвай «Наперад, наперад, толькі наперад, край родны Туркменістан!». Не адыходзячы ад касы, туркменскі лідар заспяваў свой твор ды атрымаў шквал бурных авацый. Сябры камісіі адразу аднагалосна падтрымалі песню, напісаную на вершы і музыку кіраўніка дзяржавы. Трэба дадаць, што раней прэзідэнт падкрэкставаў і сімволіку гульняў. У сувязі з гэтым можна не сумнявацца, што на алімпіядзе нас чакае шмат сюрпрызаў.

**Паводле туркменскай прэсы**

# Ці будзе ваяваць посткемалісцкая Турцыя?

Алег НОВІКАЎ

**Наступствы канстытуцыйнага плебісцыту ў Турцыі, які прызначаны на 16 красавіка, завочна шмат у каго ў свеце выклікаюць заклапочанасць. Больш за іншых непакояцца грэкі.**



Фота www.independent.co.uk

Ужо ў гэтую нядзелю туркам давядзецца даць або не даць згоду на 18 паправак у цяперашнюю рэдакцыю Асноўнага закону. Сярод паправак — адмена пасады прэм'ер-міністра, павелічэнне колькасці дэпутатаў парламента, рэфармаванне судовай сістэмы і гэтак далей. У суме рэформа прывядзе да таго, што замест парламенцкай рэспублікі ў Турцыі паўстане прэзідэнцкая.

Праўда, сярод турэцкіх палітолагаў модна называць будучы рэжым не «прэзідэнцкай рэспублікай», а «султанатам». І не толькі таму, што Эрдаган пасля 16 красавіка будзе мець прэрагатывы, падобныя на кампетэнцыі манарха. Змены ў Канстытуцыю адбываюцца на фоне радыкальнай рэвізіі кемалісцкай спадчыны і адмовы ад курсу на еўраінтэграцыю. Вакантную нішу займае настальгічны флёр па часах, калі Турцыя была ядром Асманскай імперыі.

І, гледзячы па ўсім, канцэпцыя «асманскі свет» не абмяжуецца калектыўнымі сеансамі ўспамінаў пра добрыя мінулыя часы. Дастаткова ўзгадаць абставіны нядаўніх выбараў у Балгарыі, якая ўваходзіла ў тую імперыю і дзе дасюль жыве вялікая грамада мусульман. Напярэдадні выбараў Анкара стварыла і лабіявала праз дзяржаўныя інстытуты сваю партыю.

Больш за ўсё занепакоеныя рэнесансам «неаасманізму» ў Афінах. Тут не выключаюць і адкрытага канфлікту з суседзямі. З аднаго боку, фармальных падстаў для канфрантацыі няма. Існуе Лазанская дамова 1923 года, якая праводзіць мяжу паміж дзяржавамі. Аднак на турэцкім баку мяжы хапае крытыкаў той дамовы. Лічыцца, што Лазанская дамова складалася ва ўмовах хаосу пасля грэка-турэцкай вайны 1919–1923 гадоў і што шмат дэталяў у яе тэксце не пралічылі. Прынамсі, сам Эрдаган казаў: ён не лічыць дакумент «сакральным», і нават ахарактарызаваў яго як «кепскае пагадненне».

Частковa «султан» мае рацыю. Напрыклад, дамова не тычыцца шэрагу астравоў ля берагоў Турцыі, якія зараз знаходзяцца пад грэчаскай адміністрацыяй. Канчаткова грэчаскімі яны сталі дзякуючы італьянскім фашыстам, што, захапіўшы гэтую частку Грэцыі, дамагліся ад Анкары, каб тая прызнала астравы не турэцкімі.

У любым выпадку, глеба для канфлікту існуе, пра што лепш за ўсё сведчаць трагічныя падзеі на мяжы 1995 і 1996 гадоў. Менавіта тады ля вострава Кардак, што ў турэцкай версіі называецца Імія, адбыліся сутычкі, якія некаторыя нават неглaсна называлі вайной.

На Каляды 1995-га адзін з турэцкіх чыноўнікаў нечакана абвясціў выспу, дзе няма жыхароў, турэцкай тэрыторыяй. У адказ на востраве з'явіўся дэсант грэчаскай грамадскасці з суседняга муніцыпалітэту, які ўрачыста ўзняў на ёй сцяг Грэцыі. Адказ Турцыі не прымусіў чакаць. Праз пару дзён журналісты турэцкай газеты «Hürriyet», якія прыбылі на востраў, у сваю чаргу, перад камерамі ўзнялі на Кардаку турэцкі сцяг.

Да грамадскіх актывістаў і журналістаў падцягнуліся жаўнеры, караблі і самалёты. Толькі за адзін дзень — 1 лютага 1996-га — туркі каля 150 разоў парушылі паветраную мяжу Грэцыі. Нічога дзіўнага ў тым, што хутка пачаліся сапраўдныя вайсковыя сутычкі, у выніку якіх тры чалавекі былі забітыя. Спіраль эскалацыі ўдалося спыніць выключна коштам асабістага ўмяшання тагачаснага амерыканскага прэзідэнта Біла Клінтана, які ўсталяваў мір па формуле: «no ships, no troops, no flags» (няма караблёў, няма войскаў, няма сцягоў).

У Афінах не выключаюць рымейка падзей 20-гадовай даўніны. Па-першае, праблема астравоў у тактычным плане вельмі важная для Эрдагана. Спекуляцыя вакол астравоў дазваляе прыцягнуць на свой бок частку нацыяналістаў-кемалістаў. Тыя (напрыклад, лідары ўльтранацыяналістычнай партыі MHP), даўно заклікаюць урад аднабакова абвясціць той жа Кардак і яшчэ 17 спрэчных астравоў часткай Турцыі.

Па-другое, Анкара мае крыўду на Грэцыю праз тое, што Афіны далі палітычны прытулак жаўнерам — удзельнікам спробы путчу ў ліпені мінулага года. 29 студзеня 2017-га, калі Грэцыя надала путчыстам прытулак, кіраўнік вайсковага штабу Турцыі асабіста прыняў удзел у правакацыі: яго карабель увайшоў у тэрытарыяльныя воды Грэцыі ў раёне ўсё таго ж вострава Кардак.

Пры гэтым цяперашняя Грэцыя праз эканамічны крызіс і наплыў мігрантаў з Блізкага Усходу не здольная парытэтна рэагаваць на правакацыі з боку Турцыі. Слабая надзея і на дапамогу NATO, куды ўваходзяць абедзве краіны. Усе памятаюць, як у 1974-м Паўночнаатлантычны альянс ігнараваў скаргі грэкаў і грэкаў-кіпрыётаў наконт стварэння пад патранатам Анкары сепаратысцкай краіны «Паўночны Кіпр».

Застаецца дадаць, што туркам нават не трэба дасылаць вайсковыя караблі, каб шантажаваць грэкаў. У свой час Эрдаган папярэдзіў, што ў выпадку абвастрэння ЕС рызыкуе атрымаць яшчэ больш мігрантаў, якіх Турцыя будзе накіроўваць менавіта на спрэчныя з Грэцыяй астравы.

У той жа час трэба заўважыць, што і ў кіраўніцтве Грэцыі таксама хапае аматараў надзімаць сабе рэйтынг за кошт ура-патрыятычнай рыторыкі. У тым ліку гэта Панас Каменас, лідар партыі «Незалежныя грэкі», якую цяперашні прэм'ер-лявадыкал Алексіс Цыпрас у 2016-м запрасіў ва ўрадавую кааліцыю. «Незалежныя грэкі» і асабіста Каменас, які зараз мае пасаду міністра абароны, у 1996-м спрыялі выбуху патрыятычнай істэрыкі вакол Кардаку (Іміі).

Ці з'явіцца на мапе новая гарачая кропка, мы даведаемся адносна хутка. У асноўным аглядальнікі спадзяюцца, што развязваць рукі Эрдагану на грэчаскім фронце не дазволіць больш актуальная сірыйская тэма.




Фота www.brookings.edu

# «Вялікая кааліцыя» назаўжды?

Алег НОВІКАЎ

**Пасля 26 сакавіка, калі адбыліся выбары ў зямлі Саар, ход кампаніі па выбарах у Бундэстаг змяніў фармат. Дэталі «Новаму Часу» распавядае дарадчык фракцыі партыі «Левыя» ў нямецкім парламенце Сяргей Кірчук.**

***— Яшчэ ўчора ўсе казалі, што прыход да ўлады ў ФРГ кааліцыі левых сілаў (сацыял-дэмакраты, «Левыя», «Зялёныя») амаль непазбежны. І пасля гэтага левыя атрымалі халодны душ — на выбарах у Саары кансерватары святкавалі пераканаўчую перамогу. Тут жа запаволіўся і рост папулярнасці эсдэкаў, які не спыняўся амаль са снежня мінулага года. Ці кааліцыя левых усё ж магчымая?***

— Пасля выбараў у Саары мала хто верыць, што левая кааліцыя можа прыйсці да ўлады. Усе апытанні сведчаць пра дэфіцыт дэпутацкіх мандатаў пад такі праект — не кажучы пра нарастаючую канфрантацыю паміж патэнцыйнымі ўдзельнікамі блоку. Усё пасля-доўна ідзе да таго, што ўвосень кіраваць краінай зноў будзе так званая «вялікая кааліцыя» — эсдэкі і хадэкі. Аднак гэта не азначае, што выбарчая інтрыга цалкам знікла. Лідар партыі, якая атрымае большасць, стане канцлерам. Адсюль — жорсткая барацьба паміж прыхільнікамі сацыяліста Марціна Шульца і хрысціянскай дэмакраткі Ангелы Меркель. Абедзве партыі зараз маюць прыкладна па 32–33 працэнты падтрымкі.

***— Нягледзячы на тое, што варыянт левай кааліцыі зараз больш фантомны, чым раней, ён застаецца. Пры такім раскладзе партыя «Левыя» можа ўсур'ёз прэтэндаваць на тое, каб узначаліць знешнепалітычны дэпартамент Германіі. Аднак цяжка ўявіць, што Сара Вагенкнехт — кандыдатка ад «Левых», якая патрабуе роспуску блоку NATO, можа ўзначаліць нямецкі МЗС...***

— Думаю, што большасць аднапартыйцаў Сары Вагенкнехт таксама не верыць у такі сцэнар. Калі левая кааліцыя сапраўды адбудзецца, радыкалаў кшталту Сары будуць намагацца не дапусціць на першыя ролі ва ўрадзе. Магчыма, «Левыя» і атрымаюць пасаду кіраўніка МЗС, аднак гэтым кіраўніком, хутчэй за ўсё, будзе вельмі ўмераны па поглядах палітык, накшталт Грэгара Гізі. У сувязі з гэтым шмат партыйцаў увогуле прынцыпова супраць удзелу ў федэральным урадзе. Бо ўплыў партыі на курс кабінету будзе вельмі абмежаваны, а вось яе дыскрэдытацыя амаль непазбежная.

***— Нават калі партыя Шульца не пераможа, дуэль на роўных з Меркель — сапраўдны прарыў для сацыял-дэмакратаў. Амаль дзесяціоддзе яны адставалі ад кансерватараў амаль на 10–15 працэнтаў. За кошт чаго сацыял-дэмакратам удалося радыкальна скараціць дыстанцыю?***

— Ім, безумоўна, трэба быць удзячнымі асаблівым якасцям і біяграфіі Марціна Шульца. Як вядома, у свой час цяперашні кандыдат ад эсдэкаў быў алкаголікам. Шмат хто з простых немцаў робіць на сябе праекцыю гісторыі Шульца, які «завязаў» і зрабіў такую бліскучую палітычную кар'еру. Мяркую, я таксама магу вось так — заўтра кіну кепскія звычкі і мабілізуюся. Акрамя таго, каб дамагчыся перамогі, Шульц гатовы вельмі шмат абяцаць, асабліва ў сацыяльнай сферы.

Хапае прыхільнікаў Шульца і ў асяроддзі эліты. Істэблішмент паступова канстатуе, што Германія, так ці інакш, — частка Еўрасаюза, у кулуарах якога ўсё і вырашаецца. Лічыцца, што Шульц, як былы спікер Еўрапарламента, лепш ведае еўрапейскую «кухню» і, адпаведна, больш патрэбны для краіны, чым Ангела Меркель.

***— Акрамя стабілізацыі рэйтынгу эсдэкаў назіраецца скарачэнне сімпатый да правых папулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая спекулявала на пытанні мігрантаў. За месяц AfD страціла амаль 6 працэнтаў. Няўжо гэтая праблема адышла на другі план?***

— Цяпер усё больш каментатараў згадваюць словы Меркель, якія яна сказала ў час, калі навала мігрантаў дасягнула піку: «Мы гэта пераадолеем». Тады лічылася, што гэта проста дэмагогія, аднак сёння зразумела: Меркель мела рацыю. Германія нейкім, дасюль незразумелым чынам, «пераварыла» каля мільёна мігрантаў. Іх прысутнасць у побыце практычна не адчуваецца. Агульны градус злачыннасці — невысокі. Не спраўдзіліся і жудасныя прагнозы праварадыкалаў пра тое, што міграцыя пагоршыць стан працоўнага рынку. Наадварот, сёння ў тым жа Берліне ўпершыню за працяглы час можна дастаткова лёгка знайсці працу. Нарэшце, унутры самой AfD ажывілася бескампрамісная вайна паміж рознымі фракцыямі. Усё гэта раздражняе выбаршчыка правых папулістаў. Паступова некаторыя вяртаюцца ў лагер партый, за якія галасавалі раней.

***— Ці можна казаць, што Германія пераадолела палітычны крызіс, маркерамі якога быў поспех правых папулістаў і шэраг правалаў хрысціянскіх дэмакратаў на мясцовых выбарах? Як следства, увосень мы пабачым Германію, якой яна была да крызісу з мігрантамі — заможнай і палітычна стабільнай краінай, лідарам ЕС?***

— Пакуль я б не спяшаўся з такімі высновамі. Шмат што будзе залежаць ад вясновых выбараў у Францыі. Не выключана, што на ход кампаніі паўплывае і глабальная сітуацыя, напрыклад, канфлікт у Сірыі. Таксама нельга забывацца пра тое, што AfD, хаця шмат і страціла, аднак дасюль прэтэндуе на праход у Бундэстаг. Экстрэмісты ў парламенце будуць уплываць на агульнапалітычны фон, мець выхады на дзяржаўнае фінансаванне і падтрымліваць адчуванне нестабільнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кармэ Чакон



Смерць адной з лідарак іспанскіх сацыялістаў, былога міністра абароны, ва ўзросце 46 гадоў стала шокам для ўсёй краіны.

Іспанія памятае яе дзякуючы знаходжанню ў 2008–2011 гадах на пасадзе міністра абароны. Яе пасаду разглядаюць як новую старонку ў гісторыі іспанскай палітычнай культуры, дзе традыцыйна жанчын ніколі не дапускалі да сілавых ведамстваў. Дадатковы каларыт міністру абароны дадавала тое, што яна ў той час была цяжарнай. Нават пасля нараджэння дзіцяці Чакон працягвала працаваць у апараце міністэрства, дзе для яе быў зроблены асобны дзіцячы куток.

У 2008 годзе Чакон была прызнаная найбольш папулярным палітыкам у Іспаніі. У 2009-м яна дамаглася вываду іспанскіх жаўнераў з Косава, што рэзка крытыкавалі саюзнікі па NATO. З іншага боку, яна дамагалася пашырэння іспанскага кантынгенту ў Афганістане, паколькі не бачыла для краіны перспектываў без перамогі над талібамі.

Кармэ Чакон у свой час разглядалі як прэтэндэнта на пасаду лідара партыі, што аўтаматычна рабіла яе прэм'ерам краіны. Аднак на партыйным кангрэсе большасць галасавала за іншую кандыдатуру. Пасля гэтага, праўда, Чакон рэгулярна абіралі ў парламент. Застаецца дадаць, што Чакон — этнічная каталонка, аднак яна заўжды выступала супраць незалежнасці рэгіёну.

### Уладзімір Плахатнюк



У Малдове прадухілена спроба забойства самага ўплывовага малдаўскага алігарха, лідара мясцовай дэмпартыі і адначасова самага ненавіснага ў краіне палітыка (антырэйтынг Плахатнюка — 90 працэнтаў).

Само забойства кілеры павінны былі здзейсніць з дапамогай залпу з РПГ з тэрыторыі дзіцячага садка па будынку, у якім знаходзіцца офіс алігарха ў Кішынёве. Драматычнасці інцыдэнту дадало тое, што ў спыненні зламыснікаў удзельнічалі і праваахоўныя органы Украіны. Прычым, аперацыю з боку Украіны па прадухіленні забойства малдаўскага алігарха курыраваў асабіста Пётр Парашэнка. У Кіеве таксама была распаўсюджана заява ўкраінскай дзяржаўнай памежнай службы, што «замах на Плахатнюка курыравалі спецслужбы РФ».

Цяпер малдаўская грамадскасць актыўна спрабуе разабрацца: дзе праўда, а дзе выдумка? Тэарэтычна, можна выказаць здагадку, што нейкія асабістыя ворагі алігарха планавалі яго забойства. Але ў Малдове інфармацыю пра замах успрынялі ў якасці чарговай спробы дэзынфармацыі насельніцтва. Праблема ў тым, што раней спецслужбы Малдовы раскрывалі адну за адной спробы здзейсніць дзяржаўны пераварот, што прымусіла абывацеля скептычна ставіцца да заяваў сілавікоў.

### Марыён Марэшаль Ле Пэн



Французскі палітык, дэпутатка парламенту ад партыі «Нацыянальны фронт» і, нарэшце, пляменніца старшыні партыі Марын Ле Пэн, абвясціла пра сыход з палітыкі.

Грамадствам гэта было ўспрынята як чарговы эпізод серыялу пра сям'ю Ле Пэн. Нагадаем, што ў папярэднім эпізодзе бацька Марын Жан-Мары Ле Пэн абвінавაціў дачку ў тым, што яна збіраецца яго забіць з-за крытыкі цяперашняга іміджу партыі. Таксама бацька спрабаваў праз суд аднавіць сяброўства ў «Нацыянальным фронце», які ён, дарэчы, сам і заснаваў.

Адразу з'явіліся плёткі, што наступнай ахвярай Марын аказалася Марыён, якую сапраўды называюць узыходзячай зоркай французскай палітыкі. Мяркую, цяперашняя лідарка «Нацыянальнага фронту» не прабачыла Марыён словы пра тое, што не будзе міністрам у выпадку перамогі роднай цёткі. Пачалі казаць пра магчымы раскол партыі. Праўда, у выніку Марыён узяла словы назад, паабяцаўшы прыняць удзел у наступных выбарах у парламент.

Пакуль не зразумела, што сапраўды адбываецца паміж цёткай і пляменніцай. Відавочна толькі тое, што серыял пра сямейства Ле Пэн будзе працягвацца — на радасць бульварнай прэсе.

# Партызан і арганізатар «вялікага тэрору» на Ушаччыне

Алесь КІРКЕВІЧ

**Супрацоўнікі НКУС спрычыніліся да масавых сталінскіх рэпрэсій у Беларусі. Адначасна — тое ж ведамства арганізоўвала антынямецкі супраціў у «тыле ворага» падчас Другой сусветнай вайны. Часцяком і першае, і другое рабілі тыя ж самыя людзі.**

Летняя ноч з 29 на 30 ліпеня 1943 года ў Асіповічах прайшла ў надзвычайным рэжыме. Жыхары горада і ваколіц былі абуджаныя выбухамі на чыгуначнай станцыі, з вокнаў і падворкаў быў бачны вогненны шторм. Гарэлі нямецкія вагоны, платформы з «тыграмі», будынак станцыі. Узрываліся бочкі з палівам: яны ўзляталі ў асветленае агнём начное неба ды падалі на адлегласці ад эпіцэнтру. Немцы ў паніцы дакладвалі, што на станцыю здзейснены бомбавы ўдар.

### «Значны поспех партызанаў»

Авіяналёт? Не, усё было па-іншаму. Дыверсійны атрад «Храбрецы» пад кіраўніцтвам Рабцэвіча ўлетку таго ж года атрымаў заданне падарваць дзейнасць станцыі Асіповічы — важнага чыгуначнага вузла, праз які немцы перакідвалі тэхніку і жывую сілу на ўсходні фронт. Праз Асіповічы, у тым ліку, праходзілі танкі ды самаходкі ў раён Курскай дугі. Заданне — першачарговай важнасці.

Адказным за выкананне быў прызначаны камандзір выведкі атраду Сцяпан Змушко. Гэта ён дамовіўся з працоўным станцыі Крыловічам, каб той незаўважна замацаваў атрыманыя ад дыверсантаў магнітныя міны на баках цыстэрнаў з палівам падчас абходу. Усяго дзве міны, паводле партызанскіх зводак, знішчылі цэлы чыгуначны вузел.

Дзёрзкая аперацыя была паспяховай. Пазней яе высока ацанілі, як «свае», так і «чужыя». Генерал Панамарэнка, кіраўнік Цэнтральнага штабу партызанскага руху, пісаў пра «вялікае значэнне дыверсіі»: маўляў, нават пачатак аперацыі «Цытадэль» немцы адклалі праз затрымку з пастаўкамі новых танкаў ва ўдарную групоўку. Былы афіцэр Генштабу Германіі Міддэльдорф апісваў падзеі як «значны поспех партызанаў».

### Ад дыверсій на чыгунцы да «ліквідацыі Уласава»

Хто ж такія «Храбрецы» ды камандзір выведкі Змушко? Выведвальна-дыверсійная група з такой кодавай назвай была накіраваная на тэрыторыю занятай немцамі БССР 4-м упраўленнем НКУС СССР 25 чэрвеня 1942-га — за год да аперацыі ў Асіповічах. Група





ў складзе 14 чалавек мусіла ладзіць агентурную працу ва Усходняй Беларусі, а таксама дыверсіі на чыгуначных шляхах, якія шчыльна апляталі гэтую тэрыторыю. Сярод гэтых «чатырнаццаці» і быў вышэйзгаданы Сцяпан Змушко.

Адметна, што «Храбрецам» была даручаная і яшчэ адна аперацыя: дапамога ў ліквідацыі былога генерала Чырвонай Арміі Уласава, які перайшоў на нямецкі бок і стварыў свой «Рускі камітэт». На тэрыторыі Беларусі працавалі аддзяленні камітэта, якія Уласаў наведваў з інспекцыямі. Дыверсантам НКУС было даручана вывучаць побыт, ахову і звычкі генерала для падрыхтоўкі забойства. Аднак ішоў ужо 1944 год, Уласаў адышоў на Захад, а «Храбрецы» перамясціліся на тэрыторыю Польшчы ўжо з новымі задачамі…

Вернемся, аднак, да Змушко. На 1944–1945 гады прыпадае пік ягонай кар'еры: ён, у званні падпалкоўніка, прызначаны начальнікам упраўлення НКДБ па Мінскай вобласці. Пасля — нечаканы перавод у аналагічнае ўпраўленне ўжо Брэсцкай вобласці. Далей — пераводы ў Наваградак, Слонім, праца па Гродзеншчыне, поўнай у тыя гады дыверсантамі ды «ляснымі братамі» розных поглядаў. Як былому партызану, такая праца мусіла быць блізкай Сцяпану Васільевічу.

У маі 1955-га падпалкоўнік выходзіць на заслужаную пенсію, яго след губляецца. Званне палкоўніка чамусьці яму так і не далі, нягледзячы на шматлікія заслугі і кіруючыя пасады. На момант выхаду на пенсію Змушко меў на мундзіры два ордэны Чырвонай Зоркі, ордэн Леніна, ордэн Айчыннай Вайны I ступені. Сярод іншага — прысвоены ў 1944 годзе знак «Заслуженный работник НКВД», які ў пэўных колах цаніўся вышэй за іншыя ўзнагароды.

### Вычышчаў Ушаччыну ад «шпіёнаў» ды «шкоднікаў»

На першы погляд, Сцяпан Васільевіч — хрэстаматыйны герой з фільмаў пра партызанаў ды падпольшчыкаў. Але што наконт ягонай даваеннай біяграфіі? Чым Змушко займаўся да 1941 года? Ён нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Рудня Гарбавіцкая Мінскай губерні. Для ўдзелу ў кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайне, зразумела, быў занадта малады. Але ўжо ў 1929-м далучыўся да партыі, неўзабаве — у 1932-м — стаў слухачом курсаў пры Паўнаважным прадстаўніцтве АДПУ пры СНК СССР па Беларускай вайсковай акрузе.

Сваю кар'еру чэкіста ён пачаў нават раней, ад 1930-га, упаўнаважаным Чашніцкага райаддзелу ДПУ, з 1932-га — Гарадоцкага, з 1933-га — намеснікам начальніка Палітычнага аддзела саўгаса «Замошша» (Плешчаніцкі раён) па працы АДПУ-НКУС. У 1935–1941, на працягу шасці гадоў, ён — начальнік Ушацкага райаддзелу НКУС. Такім чынам, час «вялікага тэрору» Змушко адпрацаваў менавіта тут. Адпрацаваў па поўнай: «так, чтобы товарищ Сталин сказал: «Спасибо».

**Шмат хто з тых, хто кіраваў расстрэламі, фальсіфікаваў справы, знішчаў цэлыя сем'і ў 1930-я, вярнуўся ў Беларусь у 1940-я гады з агентурна-дыверсійным заданнем, каб пасля вайны стаць героем… Як нам зараз ставіцца да гэтых людзей?**

Калі звяртацца да матэрыялаў расійскага «Мемарыялу», то праз палітычныя рэпрэсіі на Ушаччыне з 1935 па 1941 год прайшло амаль паўтысячы чалавек: сайт выдае 474 прозвішчы. Сабатажнікі, шпіёны, шкоднікі… — стандартны спіс. Зразумела, што ўсё гэта рабілася пад кіраўніцтвам усё таго ж Сцяпана Змушко.

Сярод рэпрэсаваных і мой прадзед: Кварцёнак Восіп (Язэп) Сцяпанавіч, удзельнік Грамадзянскай вайны, які добра ведаў Фурманава і меў нагародную зброю. У 1930-я — старшыня калгасу «Сака і Ванцэці» ў вёсцы Цялічына Ушацкага раёна. 12 лістапада 1937 года яго забралі акурат пасля нарады ў Полацку, прымеркаванай да гадавіны Кастрычніка. 19 снежня таго ж года ён быў расстраляны ў Оршы (абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы). Тады ж быў арыштаваны і расстраляны ягоны брат Іван, таксама ветэран Грамадзянскай вайны…

Паводле сумнай іроніі лёсу, дачка Восіпа Кварцёнка Ніна, мая бабуля, у часы вайны была партызанскай сувязной там жа, на Ушаччыне. Распаўсюджвала ўлёткі, нават разам са сваяком вазіла партызанам выбухоўку. Немцы арыштоўвалі Ніну Кварцёнак, дапытвалі, імітавалі расстрэл, каб знішчыць найперш маральна. Аднак бабуля збегла, засталася жывая. Цікава, ці магла яна ўявіць, што ваюе не проста на адным баку, але яшчэ і ў адным раёне з катам свайго бацькі? Ці магла перасекчыся з ім выпадкова, перадаючы нешта ці забіраючы згодна заданню камандзіра? Ці рэзалі вуха таварышу Змушко прозвішчы мясцовых партызанаў, сваякоў якіх ён знішчаў у 1930-я?..

### Кат ці вызваліцель?

І за савецкім часам, і сёння пра дыверсантаў, закінутых з «большой земли» ў нямецкі тыл падчас вайны, пішуць кнігі, здымаюць фільмы, на іх прыкладзе выхоўваюць моладзь. Зразумела, што збольшага падобная дыверсійная дзейнасць была інспіраваная органамі дзяржбяспекі — чэкісты складалі касцяк падобных групаў. Чэкісты ж пасля вайны змагаліся з «бандамі» ды «заходнімі шпіёнамі», што яшчэ хаваліся па лясах.

Атрымліваецца, што шмат хто з тых, хто кіраваў расстрэламі, фальсіфікаваў справы, па-садысцку дапытваў, беспадстаўна абвінавачваў, знішчаў цэлыя сем'і ў 1930-я, вярнуўся ў Беларусь у 1940-я гады з агентурна-дыверсійным заданнем, каб пасля вайны стаць героем… Як нам зараз ставіцца да гэтых людзей? Ці лічыць іх «вызваліцелямі»? Урэшце, каго яны забілі больш — беларусаў альбо немцаў?..

Для справядлівасці варта сказаць, што Сцяпан Змушко наўрад ці быў чалавекам маладушным. Усё ж такі не адседжваўся ў савецкім тыле, а рызыкаваў жыццём штодня, калі знаходзіўся на тэрыторыі ворага. Ды і на падобныя заданні органы дзяржбяспекі наўрад ці пасылалі абы-каго: толькі прафесіяналаў. Але ці рэабілітуе гэта Сцяпана Васільевіча перад нашчадкамі? Ці можна спачатку адной рукой забіваць суайчыннікаў, а пасля — іншай рукой — «вызваляць»?..

Калі прыняць логіку аб тым, што, маўляў, «час быў такі», то давайце працягваць лагічную лінію. У такім разе, і беларускіх нацыяналістаў, якія супрацоўнічалі з нямецкімі спецслужбамі — Барыса Рагулю, Зміцера Касмовіча, Рыгора Зыбайлу, Міхала Вітушку і іншых — таксама няма ў чым вінаваціць. «Час такі»… Значыць, варта прызнаць, што падчас сутыкнення двух таталітарных рэжымаў беларусы аказаліся ў стане, набліжаным да грамадзянскай вайны.

Такім чынам, ані ўніверсальнага алгарытму дзеяння ў на той час, ані ідэальнага пантэону герояў, прымальных для кожнага, мы не можам мець — усё індывідуальна. А калі так, дык і лічыць адных адназначна забойцамі, а іншых — адназначна героямі не маем аніякага права.

**Фота С. Змушко — з прыватнага архіву**

### Лічбы і факты

За гады вайны з ліку спецыяльных партызанскіх групаў і атрадаў НКДБ БССР загінула падчас спецаперацыяў 360 чэкістаў, 254 атрымалі цяжкія раненні, 60 супрацоўнікаў дзяржбяспекі лічацца і зараз зніклымі без вестак. Усяго ж з 1941 па 1943 год у выведвальных органах партызанскіх фармаванняў на Беларусі працавала 564 супрацоўніка органаў дзяржбяспекі БССР (разам з супрацоўнікамі вайсковай контрвыведкі). А колькі яшчэ было агульнасавецкіх чэкістаў?..

Да снежня 1941-га за лінію фронту было накіравана звыш 40 груп асаблівага прызначэння (больш за 1200 чалавек). Толькі ў 1943 годзе наркаматам дзяржбяспекі БССР у тыл закінута больш за 50 падраздзяленняў чэкістаў са спецзаданнямі, з ліпеня 1943 па ліпень 1944-га — 60 выведвальных падраздзяленняў, а гэта больш за 700 удзельнікаў. (паводле кнігі А.К. Салаўёва «Они действовали под разными псевдонимами»)



# «Рабуюць і цягнуць адтуль усё, што могуць»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Няглядзячы на працу савецкай прапаганды, жыхары БССР па-рознаму ўспрынялі падзеі 17 верасня 1939 года.**



Мінск, Дом ураду, 1937 год

## Мужчыны — у войска, жанчыны — у краму

Як вядома, Крэмль з першага дня Другой сусветнай вайны ўважліва сачыў за падзеямі ў суседняй Польшчы. Мяжа з Польшчай была побач, а там, за «рыжскім кардонам», для значнай колькасці грамадзян савецкай Беларусі жылі не абстрактныя «браты», а рэальныя сваякі, якія па розных абставінах засталіся ў Польшчы.

Ужо праз тыдзень пасля нападу Трэцяга Рэйху на Другую Рэч Паспалітую ў БССР абвясцілі вайсковыя зборы, і ўсе мужчыны (з 1899 па 1915 гады нараджэння) былі мабілізаваныя ў Чырвоную Армію. 11 верасня 1939 года войскі Беларускай асаблівай вайсковай акругіператварылі ў Беларускі фронт. У той жа час былі прыведзены ў баявую гатоўнасць Мінскі ўмацаваны раён, які ў выпадку вайны мусіў прыкрываць сталіцу БССР. Кулямётныя батальёны, якія неслі службу ў ДАКах на мяжы, былі папоўнены за кошт прыпіснога складу.

Што гэта ўсё значыла? Тое, што і савецкі бок рыхтаваўся да вайны. І гэта разумелі звычайныя жыхары памежнай рэспублікі. Хутка ў крамах Мінска і іншых гарадоў пачалі знікаць соль, запалкі, мука, цукар і іншыя «стратэгічныя» тавары. Людзі масава пайшлі ў банкі і пачалі здымаць грошы з рахункаў. Так, у адной з мінскіх ашчадкас за перыяд з 1 па 9 верасня 1939 года людзі знялі 1 264 999 рублёў. У Бабруйску ў адзін з верасьнёўскіх дзён у банку грошы ўвогуле скончыліся, і супрацоўнікі ашчаднай касы замовілі ў дзяржбанку яшчэ 300 тысяч рублёў.

## «Віншую з вызваленнем ад панскай залежнасці»

Людзі баяліся вайны і не верылі ў трываласць Пакту аб неагрэсіі, заключанага паміж СССР і Германіяй у жніўні 1939 года. Аднак 17 верасня 1939 года Масква дала адказ на шматлікія пытанні, якія з'яўляліся ў галовах савецкіх грамадзян. Да канца месяца Заходняя Беларусь была цалкам занятая Чырвонай Арміяй, і ў кастрычніку таго ж года было прынята рашэнне пра ўключэнне гэтых тэрыторый у склад БССР. Шматлікія беларусы, якія жылі ў розных кутках Савецкага Саюза, пачалі дасылаць віншавальныя



Маёр Афанасьеў з заслужыўцамі, БАВА, Мінск, 1938 год

лісты сваякам на «вызваленых» тэрыторыях. Так, 5 кастрычніка 1939 года жыхарка Ленінграда Кацкевіч Е.П. даслала паштовую картку свайму брату на адрас: станцыя Нёман, Віленскай губерні, Лідскага павету, Беліцкай воласці, вёска Збляны. Працытуем тэкст паслання, адрасаванага на імя Яўстафія Кашталяна:

«Дарагі брат Асташык! Віншую Вас з вызваленнем ад панскай залежнасці і з надыходам вольнага, радаснага жыцця. Напішыце мне, ці дайшоў мой ліст, і пра ўсё падрабязна. Я вельмі рада, што больш не будзе мяжы, і змагу Вас запрасіць у Ленінград, а таксама сама ўбачу сваю Радзіму. Мой адрас: горад Ленінград, пр. Перамогі, дом 68, кв. 8».

Аднак не ўсе жыхары Краіны Саветаў з такім натхненнем сустрэлі навіну пра далучэнне Заходняй Беларусі. У кастрычніку 1939 года наркамат унутраных спраў БССР інфармаваў сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнку пра контррэвалюцыйныя і антысавецкія выказванні з боку некаторых савецкіх грамадзян (дакумент захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь).

Грамадзянка Марыя Шаблоўская, якая знаходзілася пад наглядам НКУС, у адной з размоў заявіла: «Вы бачыце, як атрымалася. Рабуюць і цягнуць адтуль рэчы, матэрыялы, ды ўсё, што могуць. Напалі на Польшчу і разрабавалі яе. Як толькі з гэтым пагаджаюцца іншыя краіны?! Гэта тое ж самае, як я прыйду да вас, абрабую і выганю вас. А потым буду смяяцца. Паглядзім, што будзе далей… Мне адна жанчына распавядала, як бальшавікі там робяць: абшарніцкай зямлёй надзяляюць сялян, а потым яе ў іх забяруць у калгасы. Сяляне тады адумаюцца. Але будзе ўжо позна».

Жыхарка Мінска Кацярына Белавусава ў размове пазначыла: «Вось заяўляюць, што мы пайшлі вызваляць народ Заходняй Беларусі, а што адбываецца на самай справе? Чырвонаармейцы рабуюць там насельніцтва і прывозяць дадому шмат розных рэчаў. Каштоўныя рэчы з маёмасці абшарнікаў нашыя жаўнеры прысабечваюць і забіраюць». Пра «рабаванне» выказалася М.І. Запольская, якая падкрэсліла, што «праз цэлыя ночы па вуліцы (гутарка ішла пра вуліцу Гарбарную) ідуць машыны з нарабаванай у Польшчы маёмасцю».

## Вільня — літоўцам?

Непакоіла жыхароў БССР і сітуацыя з Віленшчынай. Напрыклад, выкладчык Белдзяржуніверсітэту Міхаіл Стажынскі ў размове адзначыў: «Як так магло здарыцца, што ўрад СССР пагадзіўся аддаць Вільню і Віленскую вобласць Літве?! У нас зараз гэткія апетыты разгарэліся, што мы хочам падпарадкаваць сабе як мага больш гарадоў, а тут на табе, аддаем Вільню!»

Віленская сітуацыя здзівіла і медсястру чыгуначнага шпіталя Мінску, грамадзянку Клімовіч, якая ў адной з размоў заявіла: «Брат майго мужа жыве ў Вільні. Ён напісаў ліст, што хутка ўбачымся, а цяпер зноў няма надзеі сустрэцца, таму, што савецкі ўрад перадаў Вільню і Віленскую вобласць Літве. Заваявалі — а зараз аддаем! Напэўна, савецкі ўрад жадаў паказаць сваю сілу, што мы моцныя, але не трэба забываць, што ў нас шмат забітых і параненых». У той жа час грамадзянін Бакіноўскі ў прысутнасці «крыніцы» сказаў: «Савецкай уладзе хутка прыйдзе канец. Англія і Францыя адпомсцяць СССР за Польшчу».

## Кардон застаецца

Калі грамадзянка Кацкевіч Е.П. пісала, што «цяпер знікне мяжа», дык яна яшчэ не ведала пра планы Крамля. А Масква не спяшалася аб'ядноўваць Беларусь. Вось што казаў пра гэта жыхар памежнага мястэчка Радашковічы Васіль Гайсюк: «Нас у БССР без паперкі з міліцыі не пускалі. У мяне ж сястра ў Мінску жыла, дык я ні пры паляках не мог да яе паехаць, ні пасля аб'яднання. Так і жылі ў адной краіне па розныя бакі ад чырвона-зялёных слупоў». А вось жыхар вёскі Загор'е Пружанскага раёна Пракоп Чабай у сакавіку 1941 года ўсё ж наведаў сталіцу БССР. Туды яго накіравала нарыхтоўчая кантора, у якой працаваў беларус. У калекцыі аўтара ёсць часовае пасведчанне спадара Пракопа, з якім ён і паехаў на Усход.

Дарэчы, у адваротны бок адказныя таварышы з БССР вельмі часта ездзілі. У адной са справаздач НКУС БССР інфармаваў кіраўніцтва рэспублікі пра злоўжыванні некаторых асоб з партапарату. Так, грамадзянін Фёдар Кокуш, які часта знаходзіўся ў камандзіроўках у Заходняй Беларусі, прывозіў у Мінск шмат прамтавараў, якія яго жонка прадавала па спекулятыўных цэнах. У сваю чаргу, супрацоўнікі базы Мінваенгандлю Юнэс, Шапіра, Фельдман, Гольдберг набылі сабе ў Навагрудку паліто, гарнітуры, гадзіннікі і прывезлі ў БССР поўныя валізкі мануфактуры.

Начальнік аднаго з адміністратыўна-гаспадарчых аддзелаў таварыш Валажынец прывёз з Вільні вялікую колькасць рэчаў, у тым ліку і радыёпрыёмнік. Але лепей за ўсіх быў шчыры камсамолец Уладзімір Плімак, які падаў у райком заяву на накіраванне «на Захад» і тлумачыў гэта тым, што «ён атрымае ў Заходняй Беларусі кватэру, добра апранецца і там увогуле ўсё танна і досыць».

На колькі вядома, вялікіх судовых працэсаў па такіх справах у БССР у 1939–1941 гадах не было. Хутчэй за ўсё, нават і санкцыі супраць гэтых асоб былі вельмі сціплымі. Урэшце, логіка іх дзеянняў упісвалася ў бальшавіцкі лозунг «рабуй нарабаванае».

## Страты, пра якія не ўзгадвалі

Памятаеце, як у справаздачы НКУС адна з жанчын згадала пра забітых і параненых падчас далучэння Заходняй Беларусі да БССР чырвонаармейцаў. Афіцыйна Беларускі фронт у перыяд з 17 па 30 верасня 1939 года страціў 403 чалавекі забітымі, 13 чалавек зніклі без звестак і 642 чалавекі былі параненыя, кантужаныя, абпаленыя. Здаецца, не так і шмат, але ў савецкай гістарыяграфіі тыя падзеі называліся не вайной, а паходам.

У верасні 1939 года ў хаты жыхароў БССР прыходзілі пахаронкі. Адну з іх атрымала сям'я маёра Афанасьева, які загінуў у баях з польскімі войскамі. У лістападзе 1939 года яго жонка Антаніна Сяргееўна і сын Аляксандр атрымалі пасмяротную пенсію «па страце карміцеля». Як вынікае з пенсійнай кніжкі, сям'я афіцэра атрымлівала пенсію да чэрвеня 1941 года.

Пра ўсе гэтыя моманты ў Савецкім Саюзе не любілі ўзгадваць.



Пахаванне маёра Афанасьева, 1939 год




# Розыгрыш латарэі не адбыўся



Сяргей ЧЫГРЫН

**У 1990 годзе ў Оршы выйшаў першы нумар газеты «Беларускі калекцыянер».**

Яго рыхтавалі і выдалі калекцыянеры Алесь Сярожкін і Уладзімір Цярохін. Першы нумар накладам 990 асобнікаў разышоўся імгненна. Гэта было першае беларускае спецыялізаванае выданне для калекцыянераў Беларусі. Газету калекцыянеры выдавалі практычна за свае ўласныя сродкі. З друку выйшла ўсяго 24 нумары, быў падрыхтаваны і №25, але з-за недахопу сродкаў ён не быў надрукаваны. Цяпер, на жаль, беларускія калекцыянеры не маюць свайго ўласнага выдання: ні газеты, ні часопіса.

**Грошы ад продажу латарэі планавалася ахвяраваць на выпуск газеты. Але №25 «Беларускага калекцыянера» не выйшаў, а латарэя не была разыграная**

Нядаўна атрымаў ад першага рэдактара «Беларускага калекцыянера» Алеся Сярожкіна з Оршы ліст. Разам з лістом ён даслаў мне квіток прыгожай грашова-рэчавай латарэі беларускіх калекцыянераў, якую выпусціла газета «Беларускі калекцыянер» у 2000 годзе. У лісце спадар Сярожкін паведаміў, што сам розыгрыш гэтай латарэі так і не адбыўся. Хаця для гэтага было ўсё належным чынам падрыхтавана.

Ідэя выпусціць такую латарэю ўзнікла ў калекцыянера і мастака з Ваўкавышчыны Міхася Верацілы. Гэта ён падрыхтаваў эскіз латарэі, а трохі падрэдагавалі яго супрацоўнікі газеты. Розыгрыш латарэі павінен быў праводзіцца газетай «Беларускі калекцыянер». Разыгрываліся тады два камплекты марак «Асобны атрад БНР» з зубцамі і без зубцоў, тры камплекты паштовак — кожны па пяць асобнікаў выдаўца Міхася Казлоўскага з Маладзечна і пяць камплектаў газеты «Беларускі калекцыянер». Грашовы выйгрыш павінен быў скласці 70% ад сабранай сумы грошай.

Латарэя выйшла накладам 100 асобнікаў. А вынікі правядзення розыгрышу латарэі меркаваліся надрукаваць у №25 «Беларускага калекцыянера». Грошы ад продажу латарэі планавалася ахвяраваць на выпуск газеты. Але №25 «Беларускага калекцыянера» з друку не выйшаў, а латарэя так і не была разыграна. Для гісторыі засталіся толькі гэтыя прыгожыя латарэі ад «Беларускага калекцыянера», якія прапаную чытачам «Новага Часу».

# Кінапрэм'еры другога квартала



**«Сабачае жыццё»**

Добразычлівая і мілая стужка, што дакладна прыйдзецца даспадобы ўсім сабачнікам, — «Сабачае жыццё», паказ якой стартаваў 30 сакавіка. Сабакі — нашы самыя адданыя сябры. Усе яны кожны дзень выпраўляюць і сустракаюць нас ля парога ва ўпэўненасці, што пакуль ім ёсць каго аблізваць і любіць, у іх жыцці ёсць сэнс. Прыгожая гісторыя пра рэінкарнацыі сабачай душы ад рэжысёра «Хаціка: самы адданы сябра».



**Сакрэтны агент**

Паказы баевіка «Сакрэтны агент» распачнуцца з 20 красавіка. У адрозненне ад многіх стужак гэтага жанру, інтрыга ў фільме не раскрываецца амаль да канца. У выніку таго, што агента ЦВУ зманам заваблівають у пастку, Лондан аказваецца пад пагрозай біялагічнага нападу.



**«Фарсаж 8»**

Адной з самых доўгачаканых прэм'ер дакладна стане крымінальны экшэн «Фарсаж 8». Глядач не стамляецца глядзець, а кіношнікі не стамляюцца здымаць. Він Дызель, Дуэйн Джонсан, Джэйсан Стэйтэм, Курт Расэл… А да іх у гэтай частцы далучаецца і прыгажуня Шарліз Тэрон. Прагноз пракатчыка па зборах у Беларусі — 1 900 000 BYN! Для самай крутой каманды ў свеце няма нічога немагчымага, пакуль яны разам. Але калі на іх шляху апынецца адна з самых прыгожых жанчын на планеце і па сумяшчальніцтву каралева кіберзлачыннасці, дарогі сяброў разыдуцца…



**«Спарк»**

27 красавіка пачынаецца паказ яркага і дынамічнага сямейнага мультфільма «Спарк». Выдатная анімацыя, графіка, прарысоўка. Спарк — маленькая малпачка і яе сябры, Чанк і Вікс, знаходзяцца на заданні, каб вярнуць планету Бана — каралеўства, захопленае злым уладаром Чжун. Камандзе адважных таварышаў давядзецца адправіцца ў аддаленыя глыбінкі космасу.



**«Мумія»**

З 8 чэрвеня стартуе фэнтэзійны прыгодніцкі баявік «Мумія». Пасярод бязлітаснай пустэльні ў велічным саркафагу пахавана дачка егіпецкага фараона, але надыдзе дзень — і яна з'явіцца ў наш свет, каб вярнуць сабе тое, што належыць ёй па праву. У галоўнай ролі — Том Круз, прысутнасць якога ў фантастычных фільмах заўсёды абяцае добрыя зборы. Касавыя зборы гэтай франшызы чакаюцца ў суме 1 250 000 BYN.



**«Брыдкі я 3»**

Завершыцца паўгоддзе паказамі з 29 чэрвеня сямейнага поўнаметражнага кампутарнага мультфільма «Брыдкі я 3» у 2D і 3D. Працяг вясёлых гісторый пра міньёнаў, якія трапляюць у розныя камічныя сітуацыі. Новыя прыгоды Гру, што жыве разам з Люсі і трыма прыёмнымі дочкамі. Чакаецца, што гэтыя смешныя мультпрыгоды збяруць каля 1 850 000 BYN.

**Падрыхтаваў Алег Грушэцкі**



## Шаноўныя чытачы!

**Кожную суботу жыхары Мінска і Мінскай вобласці змогуць набыць новы нумар «Новага Часу» у бліжэйшым да дому шапіку «Белсаюздруку».**

Як абяцае кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук», газету «Новы Час» можна будзе набыць практычна ў кожнай гандлёвай кропцы Мінска і вобласці.

Мы заклікаем нашых чытачоў спраўджваць гэту інфармацыю і паведамляць у рэдакцыю пра адсутнасць газеты ў продажы.

**Рэдакцыя «Новага Часу» вельмі спадзяецца на вашу шчырую падтрымку!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №355

Падпісана да друку 14.04.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.